● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

21 ліпеня 1998 г. аўторак, № 144 (23495)

# ЗВЯЗДА



СТЫХІЯ

## УДАР СТЫХІІ: КОЛА ДРУГОЕ...

**Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях, усяго, пачынаючы з 14 чэрвеня, у Беларусі ад разгулу стыхіі пацярпелі 78 раёнаў. Зараз у іх працягваюцца работы па рамонту жылля, грамадскіх, вытворчых і сельскагаспадарчых пабудоў, уборцы паваленых ветрам дрэў.**

Аднак сітуацыя ўскладнілася ў выніку моцных ліўневых дажджоў са шквалістым ветрам, што адбыліся 14 ліпеня — якраз праз месяц пасля першага ўдару стыхіі ў сёлетнім годзе. «Другое кола» бедстваў закранула паўднёва-ўсходнюю частку тэрыторыі Віцебскай вобласці, дзе ў сямі раёнах, а таксама гарадах Оршы і Віцебску надвор'е нарабіла бяды. Моцныя ліўневыя дажджы тут суправаджаліся шквалістым ветрам да 18—21 метра ў секунду. У выніку былі пашкоджаны дахі 49 жылых дамоў, адной школы, 60 вытворчых і сельскагаспадарчых пабудоў, разбураны мост. Ужо 17—18 ліпеня нябёсы «расчыніліся» над Жыткавіцкім і Лельчыцкім раёнах, дзе адведна было падтоплена 378 і 157 падворкаў, 159 і 68 дамоў, 22 тысячы і 10 тысяч сельскагаспадарчых угоддзяў.

Як заўважылі ў міністэрстве, з улікам апошніх разбурэнняў у Віцебскай вобласці, жылыя і грамадскія будынкі ў пацярпелых раёнах краіны аднаўлены на 86,6 працэнта (засталося аднавіць 164 з 1221 будынка). Праўда, працягваюць заставацца падтопленымі поймевыя землі на рацэ Бярэзіна, участку Барысаў—Беразіно, рэках Убарць і Пціч — прытоках Прыпяці. Чакаецца выхад вады на пойму на рацэ Гарынь у г.п. Рэчыца. Глыбіня затаплення поймаў рэк складае 7—55 сантыметраў.

Неабходныя будаўнічыя матэрыялы для аднаўлення будынкаў і збудаванняў ёсць на базах Белспажыўсаюза і заводах краіны, аднак аб'ёмы паставак іх у пацярпелыя раёны часам затрымліваюцца з-за адсутнасці фінансавых сродкаў, заўважылі ў Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях. Па лініі Белдзяржстраха ўжо праведзена 2179 выплат на суму 4,9 млрд. рублёў.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## НА ПІСТАЛЕЦЕ НЕ ЗНОЙДЗЕНА АДПЯЧАТКАЎ ТАМАРЫ РОХЛІНАЙ

Як паведаміў агенцтву «Аргументы и факты-Новости» Аляксандр Марозаў — адзін з прыбліжаных забітага генерала Льва Рохліна, — пракуратура вымушана прызнаць, што на мяркуемай зброі забойства (наградным пісталеце) слядоў пальцаў Тамары Рохлінай не знойдзена.

«Проста там іх ніколі і не было», — сказаў Аляксандр Марозаў. Таму высунутыя супраць жонкі генерала абвінавачанні Марозаў лічыць «грубай фальшыўкай».

**Агенцтва «Аргументы и факты-Новости».**

# Нялёгкая служба дэсантніка

**На Дрэтуньскім палігоне, што пад Полацкам, прайшлі тактычныя вучэнні 350-й асобнай мабільнай брыгады. Асноўная мэта вучэнняў — удасканаленне практычных навыкаў камандзіраў у арганізацыі баявых дзеянняў і бесперапынным кіраванні падраздзяленнямі ў баі, павышэнне ўзроўню палявой вывучкі воінаў-дэсантнікаў.**

**На здымку: на рубяжы абароны гвардыі малодшы сяржант Мікалай МІХАЛЬКЕВІЧ.**



Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ, БЕЛТА.

## ДЗЯРЖДУМА РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ НЕ ПРЫМАЕ ПАЛІТЫКІ НАЦІСКУ НА БЕЛАРУСЬ

**У сувязі з апошнімі падзеямі, што датычаць развязанай кампаніі, накіраванай на міжнародную ізаляцыю Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўная Дума Федэральнага Сходу Расійскай Федэрацыі прыняла зварот да парламентаў дзяржаў — членаў Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе.**

«Рэакцыя Злучаных Штатаў Амерыкі і шэрагу еўрапейскіх дзяржаў на канфлікт вакол праживання паслоў у комплексе «Дразды», што з'яўляецца рэзідэнцыяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, абсалютна неадэкватная сутнасці пытання і дае падставу меркаваць, што маланачны па сутнасці інцыдэнт быў раздуты толькі ў палітычных мэтах», — гаворыцца ў звароце.

Дзяржаўная Дума лічыць, што пазбаўленне права на ўезд у шэраг еўрапейскіх краін асоб, якія ўваходзяць у састаў кіраўніцтва Беларусі, і пагроза разрыву дыпламатычных адносінаў беспрэцэдэнтныя і абсалютна непрымальныя ў стасунках з суверэннай дзяржавай, рашэнні якой павінны паважацца ў адпаведнасці з Венскай канвенцыяй. Гэтыя меры, адзначаецца ў звароце, небяспечныя прэцэдэнт, які здольны падарваць стабільнасць у міжнародным супольніцтве і ўзаемную добразычлівасць у адносінах паміж дзяржавамі. Любыя рознагалоссі могуць і павінны вырашацца пры дапамозе паважлівага дыялогу, накіраванага на дасягненне ўзаемапрымальнага кампрамісу. Тым больш, што Рэспубліка Беларусь выразна заяўляе аб гатоўнасці да такога дыялогу.

Расійская Федэрацыя выступае за больш хуткае ўрэгуляванне інцыдэнту вакол комплексу «Дразды» і поўную нармалізацыю адносінаў паміж Рэспублікай Беларусь і дзяржавамі — членамі АБСЕ. Пры гэтым, гаворыцца ў звароце, Дзяржаўная Дума гатова прыкласці ўсе магчымыя намаганні для нармалізацыі гэтых адносінаў і спадзяецца, што сітуацыя, якая атрымала неспрыяльны міжнародны рэзананс, не будзе абвастрацца, а адносіны краін АБСЕ з Мінскам будуць будавацца ў рамках канструктыўнага дыялогу.

Зварот, а таксама прынятая ў сувязі з гэтым пастанова Дзяржаўнай Думы накіраваны ў парламенты дзяржаў — членаў АБСЕ, прэзідэнтам Расіі і Беларусі Барысу Ельцыну і Аляксандру Лукашэнку, у Савет Федэрацыі Федэральнага Сходу Расійскай Федэрацыі, Нацыянальны сход Беларусі, урадам двух дзяржаў, у Парламенцкі сход Саюза Беларусі і Расіі, Міжпарламенцкі асамблею СНД, а таксама ў Парламенцкую асамблею Савета Еўропы і Міжпарламенцкі саюз.

**БЕЛТА.**

## ЧАРГОВАЯ «ВЫЯЗНАЯ ПРЫЁМНАЯ» «ЗВЯЗДЫ» І ФЕДЭРАЦЫІ ПРАФСАЮЗАЎ КРАІНЫ ПРАЦАВАЛА Ў РАСОНАХ

**Мінулы тыдзень, відавочна, па-свойму, хаця б на нейкі час, застанецца ў памяці жыхароў Расон і Расонскага раёна. У гэты далёкі ад сталіцы куточак зямлі беларускай завітала вялікая група журналістаў «Звязды», а таксама прадстаўнікі Федэрацыі прафсаюзаў краіны, міністэрстваў сацыяльнай абароны насельніцтва і аховы здароўя. Завіталі, каб пазнаёміцца з раёнам, пастарацца ўнікнуць у сацыяльна-эканамічныя праблемы Расоншчыны.**

І журналісты, і прафсаюзныя работнікі, і прадстаўнікі міністэрстваў — усе разам вялі прыём грамадзян па асабістых пытаннях, прысутнічалі на агульных сходах насельніцтва ў Расонах, а таксама ў Краснапольлі (не блытаць з аднайменным райцэнтрам на Магілёўшчыне, на Расоншчыне — сваё Краснаполле), у Дворышчы, Сяляўшчыне і Заборддзі. Па колькасці назваў населеных пунктаў раён не такі ўжо і малы. Ды і па наяўнасці азёраў Расонскі край, мусіць, наперадзе краіны ўсёй. А вось па колькасці насельніцтва хіба што ледзь палову раён сабраў у параўнанні з даваенным узроўнем. Паказчык, што ні кажы, прыкметны, з тых, што гаворыць самі за сябе.

Але і ў вялікім горадзе і ў малым мястэчку, у вялікім прысталічным раёне і ў далёкай глыбінцы пытанняў у людзей хапае. І агульных, якія звязаны з краінай, дзяржавай у цэлым, і прыватных. Апошнія, як правіла, датычацца сістэмы сацыяльнага забеспячэння, выплаты пенсій, прадастаўлення льгот, жыццядзейнасці жыллёва-камунальнай гаспадаркі, функцыянавання сістэмы медыцынскага забеспячэння... Канешне ж, і ў Расонах, Расонскім раёне людзей хвалююць гэтыя і іншыя пытанні. Часам, як нам падалося асабліва на сустрэчы ў самім Расонах (а большую частку прысутных складалі пенсіянеры, людзі сталага ўзросту), пытанні з разраду вырашальных на месцы. Але ўзнікаюць сітуацыі, калі людзі чакаюць іх імгненнага вырашэння (рамонт дахаў, капітальны рамонт дзяржаўнага жылля і г.д.). На жаль, зусім не той зараз час, калі бюджэт дазваляе ў імгненне вока выканаць тыя альбо іншыя, у большасці сваёй разумныя і зразумелыя, запатрабаванні грамадзян. Ды і вось што яшчэ — мы ўсё ніяк не можам зразумець, што адной з прычын (мо нават — галоўнай) паўсюднай занядбанасці з'яўляюцца несвоечасовыя выплаты за жыллёва-камунальныя паслугі, а таксама неадпаведнасць гэтых выплат рэальнаму кошту затрат. І ўжо даўно наспеў час зразумець (незалежна ад нашага жадання), што сацыяльна дабрачыннасць не заўсёды на карысць дабрабыту ўвогуле.

Запісаўшы ўсе зададзеныя ў Расонах і вёсках Расоншчыны пытанні, «Звязда» бярэ на кантроль іх вырашэнне. Падрабязная справаздача аб чарговай «выязной прыёмнай» — у адным з наступных нумароў.

У сваю чаргу «Звязда» збіраецца прадоўжыць работу па правядзенню «выязных прыёмных». Чакаем, што новыя адрасы, задаўшы папярэдне канкрэтныя пытанні, падкажуць нам і чытачы.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## ДЗЯРЖАЎНЫ ПАДАТКОВЫ КАМІТЭТ ПАВЕДАМЛЯЕ І ПАПЯРЭДЖВАЕ

**Як паведамілі ў прэсцэнтры Дзяржаўнага падатковага камітэта, інспекцыямі Камітэта за І паўгоддзе складзены 1074 пратаколы аб парушэнні валютных аперацый, канфіскавана звыш 198 тысяч долараў ЗША, 2 тысячы нямецкіх марак, каля 225 тысяч рублёў Расійскай Федэрацыі.**

Да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута 760 грамадзян, яны пакараны адміністрацыйнымі штрафамі на агульную суму, якая перавышае 9 мільярдаў рублёў. Падвергнута адміністрацыйнаму арышту больш як 200 чалавек.

У Дзяржаўным падатковым камітэце звяртаюць увагу грамадзян на захаванне правілаў валютных аперацый і нагадваюць пра ўстаноўленую заканадаўствам адказнасць.



## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 20 ЛІПЕНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (0-17) | | | | | | | |
| Белпрамбудбанк | 55000 | 56500 | 31000 | 31600 | 8500 | 9000 | 233-21-10 |
| Мінсккомплексбанк | 56500 | 57500 | 31500 | 32150 | 9100 | 9250 | 228-20-47 |
| Пріорбанк | 56000 | 57500 | 31000 | 32100 | 8800 | 9200 | 245-57-21 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 39800.00 | | 22258,26 | | 6400.00 | | Курс на 21.07.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 62190 | | 34788 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрознівацца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Рынкавы намінальны курс (міжбанкаўскі рынак) | 70000 | 72000 | 39295 | 40433,54 | 11270 | 11600 | |
| Рэальна абгрунтаваны намінальны курс (прыблізна) | 65000 | 65500 | 36500 | 36800 | 10500 | 10600 | |

## НЕАБХОДНА БОЛЬШ ЭФЕКТЫЎНАЯ ГРАШОВАЯ ПАЛІТЫКА

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка 20 ліпеня прыняў са справаздачай старшыню праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь Пятра Пракаповіча.

Як паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе кіраўніка дзяржавы, Пётр Пракаповіч праінфармаваў Аляксандра Лукашэнку аб праводзімай грашова-крэдытнай палітыцы. У прыватнасці, ён далажыў, што за апошні час удалося стабілізаваць рынкавы курс беларускага рубля і стварыць перадумовы для недапушчэння ў далейшым дэвальвацыі нацыянальнай валюты.

Прэзідэнт запатрабаваў узмацніць работу Нацыянальнага банка па далейшай стабілізацыі курсу беларускага рубля на ўнутраным і знешнім рынках і паскарэнню пераходу на адзіны курс нацыянальнай валюты ўнутры краіны. Аляксандр Лукашэнка звярнуў увагу на неабходнасць правядзення больш эфектыўнай грашова-крэдытнай палітыкі, якая стымулюе эканамічны рост і выкананне прагнозных паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі на 1998 год.

Прэзідэнт абавязаў Нацыянальны банк разам з урадам прыняць дадатковыя меры па павелічэнню паступлення валютных сродкаў на рахункі суб'ектаў гаспадарання. Пастаўлена задача ў гэтым годзе дабіцца павелічэння валютных паступленняў на рахункі прадпрыемстваў не менш як на 5—8 працэнтаў у параўнанні з 1997 годам. Пры гэтым кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што кожнае прадпрыемства павінна забяспечваць свае патрэбнасці ў валюце самастойна. Прэзідэнт таксама запатрабаваў узмацніць кантроль па разліках прадпрыемстваў за энерганосьбіты і ліквідаваць існуючую запазычанасць перад РАТ «Газпрам» да пачатку ацяпляльнага сезона.

Кіраўнік дзяржавы ўказаў на неабходнасць далейшага стымулявання таваравытворцаў і павелічэнне аб'ёмаў экспарту за валюту, уключаючы выдзяленне экспарцёрам ільготных крэдытаў, а таксама прыняцця мераў па льготнаму падатккакладанню. Адначасова Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў узмацніць кантроль за выкананнем праграмы імпартазамяшчэння.

Пётр Пракаповіч як прадстаўнік прэзідэнта па Брэсцкай вобласці даў справаздачу таксама аб сацыяльна-эканамічным развіцці гэтага рэгіёна і падрыхтоўцы да ўборкі ўраджаю. Кіраўнік дзяржавы даручыў узмацніць кантроль за станам спраў у замацаванай вобласці і забяспечыць правядзенне ўборачных работ без страт і ў сціслыя тэрміны.

**БЕЛТА.**

*З матэрыялаў рэспубліканскай нарады па пытанню рэалізацыі Дзяржаўнай праграмы па мінімізацыі і пераадоленню наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай атамнай станцыі*

ДАСЛОЎНА

# Чарнобыльская катастрофа і яе наступствы сталі вельмі сур'ёзным выпрабаваннем для беларускай дзяржавы.

## Наша грамадства гэты экзамен па вялікаму рахунку вытрымлівае

**Як паведамлялася ўжо, прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка 15 ліпеня правёў у Гомелі рэспубліканскую нараду, прысвечаную вырашэнню чарнобыльскіх праблем. У сваім уступным слове ён падкрэсліў, што самая цяжкая праблема, якую нам даводзіцца сёння вырашаць, чарнобыльская. Гэта мінімізацыя наступстваў аварыі на ЧАЭС, стабілізацыя жыцця ў гэтых рэгіёнах.**

Чарнобыльская катастрофа, якая здарылася 12 гадоў таму, сказаў кіраўнік дзяржавы, стала першай і пакуль, на шчасце, адзінай такога маштабу трагедыяй у гісторыі чалавецтва. «Я вельмі часта гаварыў аб тым, што беларусы не з'яўляліся і не з'яўляюцца прычынай гэтай страшнай катастрофы. Не мы будавалі гэту станцыю. Не мы яе эксплуатавалі. І не мы, беларусы, далі яе да таго, што яна ўзарвалася». Але, на жаль, наступствы аварыі на ЧАЭС, адзначыў Аляксандр Лукашэнка, самым істотным чынам адбіліся на нашым народзе. Прыкладна чвэрць тэрыторыі Беларусі так або інакш падверглася радыеактыўнаму забруджванню, а можа, і заражэнню. Нам, тагачаснаму і цяперашняму кіраўніцтву, прыйшлося прыкладаць максімум намаганняў для таго, каб пераадолець гэтыя страшныя наступствы. Тады было лягчэй — тады была вялікая краіна, якая ўзяла на сябе адказнасць за ліквідацыю наступстваў катастрофы, падкрэсліў прэзідэнт. Пад тую сітуацыю прымаліся законы. Пад тую сітуацыю разгортвалася ўся барацьба па мінімізацыі наступстваў.

Далей, нагадаў кіраўнік дзяржавы, вядома, што адбылося. Барацьба за ўладу, перш за ўсё. І, перш за ўсё, так званых «дэмакратаў», якія імкнуліся не да самастойнасці дзяржавы, а да «самасційнасці» — дзікай, непрадказальнай. Сустрэча гэтых людзей, на жаль, зноў жа на нашай беларускай зямлі, была раўназначная яшчэ адной чарнобыльскай трагедыі. Быў знішчаны Савецкі Саюз — краіна, якая несла адказнасць за чарнобыльскую катастрофу. Краіна, якая ў стане была калі не ліквідаваць яе наступствы, то звесці да мінімуму.

Увесь цяжар гэтых праблем лёг на плечы беларускага народа. І ніхто нам належным чынам не дапамагаў і не дапаможа, адзначыў Аляксандр Лукашэнка.

Прыкладна з 225 мільярдаў долараў урону, які нанесены нашай краіне, нам аказалі дапамогу па гуманітарнай лініі на суму, крыху большую за 100 мільёнаў долараў. Беларусь штогод з усіх крыніц траціць на пераадоленне наступстваў Чарнобыля сродкі, прыкладна роўныя чвэрці нашага дзяржаўнага бюджэту.

Прэзідэнт нагадаў, што ён ужо сёмы раз наведвае чарнобыльскія раёны, чацвёрты раз ён на Гомельшчыне. І кожная паездка мела сваю пэўную мэту. Былі агульныя мэты, як раней, так і ў гэты раз, былі і асаблівасці гэтых паездак. Агульная мэта кожнага такога наведвання заключаецца ў тым, каб прыкладна з перыядычнасцю два разы ў год асабіста адсочваць тыя тэндэнцыі, што адбываюцца на забруджаных тэрыторыях, каб, лішні раз пагаварыўшы з людзьмі, на свае вочы пераканацца, што адбываецца, чаго не хапае. Да вырашэння якіх праблем кіраўнік дзяржавы павінен падключыцца. Размова ідзе аб кантролі за фінансамі, якія сюды накіроўваюцца, гэта кантроль за рэалізацыяй адпаведных прэзідэнцкіх праграм. А самае галоўнае — гэта кантроль за дзейнасцю ўрада, Міністэрства фінансаў па выдзяленню сродкаў для пацярпелых тэрыторый.

А канцэпцыю і практычныя ўказанні прэзідэнта, сказаў Аляксандр Лукашэнка, вы ведаеце: усё, што сёння збіраецца пад Чарнобыль, увесь чарнобыльскі падатак — усё павінна быць накіравана ў дзве вобласці і крыху ў трэцюю.

Я працягваю прытрымлівацца той пазіцыі, сказаў Аляксандр Лукашэнка, што тут, на месцах, працуюць адказныя, прыстойныя людзі, людзі прэзідэнта, якія ведаюць, куды перш за ўсё трэба накіраваць грашовыя сродкі. Вядома ж, не на закупку легкавых аўтамабіляў і рамонт адміністрацыйных будынкаў.

Паводле слоў кіраўніка дзяржавы, тыя даручэнні, якія ён даў у папярэднія гады, выкананы поўнасцю, за выключэннем дзвюх праблем, якія маюць больш працяглы характар для рэалізацыі. Адна з іх — Гомельскі спецдыспансер. Другую праблему мы сёння абмяркуем.

І яшчэ. Наведваючы чарнобыльскія раёны, сказаў прэзідэнт, я хацеў для сябе зрабіць вывад: ці можам мы там у бліжэйшы час займацца гаспадарчай дзейнасцю? Прыходжу да адназначнай высновы: можам і павінны. Больш таго, нельга ўпусціць у бліжэйшыя гады дрэваапрацоўку, перапрацоўку той драўніны, якая, паводле заключэння вучоных, можа ператварыцца ў радыеактыўную.

Яшчэ адна канкрэтная праблема — гэта забеспячэнне насельніцтва прадуктамі харчавання, медыцынскім абслугоўваннем. Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што ўчарашняя яго сустрэча ў Хойніках паказала: тут пытанняў нямала. Людзі выказвалі патокі скаргаў, у тым ліку, на вялікі жаль, і на медыцынскае абслугоўванне.

Галоўная мэта нарады, адзначыў далей Аляксандр Лукашэнка, — абмеркаваць працэс выканання Праграмы па пераадоленню наступстваў чарнобыльскай катастрофы. Ён папрасіў асноўных дакладчыкаў, каб яны рабілі справаздачу па сутнасці: што зроблена, што не ўдалося зрабіць, што будзе зроблена. Пры гэтым трэба ўлічваць, што самае галоўнае — да канца 2000 года стабілізаваць сітуацыю ў гэтых раёнах, каб яны не былі больш чарнобыльскімі — беднымі, няшчаснымі і не выпадалі з нармальнага жыцця нашай дзяржавы.

❑

**Затым, выслухаўшы прамоўцаў, прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка выступіў з дакладам па пытанню рэалізацыі Дзяржаўнай праграмы па мінімізацыі і пераадоленню наступстваў катастрофы на ЧАЭС.**

Чарнобыльская трагедыя, сказаў ён, стала часткай нашага жыцця, важнейшай састаўной унутранай і знешняй палітыкі нашай дзяржавы. Добра вядома, што ў выніку чарнобыльскай аварыі 70 працэнтаў усіх радыеактыўных ападкаў выпала на Беларусь. Радыеактыўным цэзіем забруджана амаль чвэрць яе тэрыторыі. З сельскагаспадарчага абароту выведзена звыш 260 тысяч гектараў урадлівых ворных зямель. Спынілі гаспадарчую дзейнасць больш за пяцьдзесят калгасаў і саўгасаў, каля трохсот аб'ектаў народнагаспадарчага комплексу, звыш шасцісот школ і дзіцячых садоў, каля сотні бальніц, звыш пяцісот аб'ектаў гандлю, грамадскага харчавання і бытавога абслугоўвання. Адселена ў цэлым больш за чатырыста населеных пунктаў.

Сумарны ўрон, нанесены Беларусі ў разліку на трыццацігадовы перыяд яго пераадолення — да 2015 года, складзе 235 мільярдаў долараў ЗША. Ён роўны трыццаці двум — удумайцеся ў гэту лічбу! - трыццаці двум бюджэтам нашай дзяржавы 1990 года. Для краін, якія перажылі экалагічныя катастрофы куды меншага маштабу, гэта азначала б эканамічны адкат назад, сур'ёзную сацыяльную напружанасць, рэзкае зніжэнне жыццёвага ўзроўню насельніцтва і аўтарытэту ўлады, разладжанасць кіраўніцкіх структур.

Чарнобыльская катастрофа і яе наступствы, адзначыў Аляксандр Лукашэнка, сталі вельмі сур'ёзным палітычным выпрабаваннем і для нашай маладой дзяржавы. Наша грамадства, дзяржаўныя структуры, нашы кадры гэты палітычны экзамен па вялікаму рахунку вытрымліваюць. Гэты палітычны экзамен для нас з вамі — кіраўнікоў дзяржаўнай улады, адзначыў Аляксандр Лукашэнка, будзе працягвацца і ў агляднай будучыні. Тым больш, што мы, шчыра кажучы, не ведаем, якія нечаканыя сюрпрызы могуць нам паднесці наступствы Чарнобыля і праз пяць, і праз дзесяць, а можа, і праз трыццаць гадоў. Але да іх трэба быць гатовымі. Трэба мець салідную навуковую базу, матэрыяльныя рэсурсы, добра адпрацаваныя тэхналогіі, устойлівую палітычную супольнасць нацыі, развагу і вытрымку, калі хочаце.

Далей Аляксандр Лукашэнка сказаў, што прэзідэнтам, урадам, парламентам краіны распрацаваны і прыняты важныя дзяржаўныя заканадаўчыя і нарматыўныя дакументы, накіраваныя на пераадоленне наступстваў чарнобыльскай катастрофы. Вырашэнню праблем аварыі на ЧАЭС дзяржава надае прыярытэтнае значэнне ў бюджэтна-падатковай палітыцы, і гэта адлюстравана ў штогадовых законах аб бюджэце нашай краіны.

Такім чынам, падкрэсліў прэзідэнт, можна сцвярджаць, што створана трывалая заканадаўчая база, выпрацаваны навуковыя рэкамендацыі па пераадоленню наступстваў катастрофы. У планавым парадку акумуліруюцца бюджэтныя сродкі. Сфарміраваўся магутны атрад спецыялістаў розных галін, у тым ліку і кіраўнікоў, якія навучыліся працаваць у экстрэмальных умовах зоны, што пацярпела ад Чарнобыля.

Вядома, што граху таіць, заўважыў прэзідэнт, былі часам і памылкі, і няграматныя рашэнні, асабліва на першапачатковым этапе ліквідацыі наступстваў аварыі. Зразумела, знімаць віну з кіраўнікоў, якія дапусцілі гэтыя памылкі, мы не можам і не маем права. Але будзем аб'ектыўнымі: складанасць палітычнай абстаноўкі ў той час, глабальныя маштабы катастрофы, адсутнасць адпаведнай практычнай і навуковай базы кіраўніцкіх рашэнняў таксама адыгралі сваю ролю. «У цэлым жа я магу сцвярджаць: сістэма работы па ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай аварыі, якая склалася за мінулыя тры гады, эфектыўная. І яна працягвае ўдасканальвацца», — сказаў кіраўнік дзяржавы.

Самае галоўнае, зазначыў ён, што калі сёння ўзнікае праблема, нам не трэба, як гэта было ў былыя часы, месяцы і гады для таго, каб прыняць той або іншы нарматыўны акт для яе вырашэння. Праблемы вырашаюцца на аснове цяперашняй Канстытуцыі вельмі хутка і эфектыўна.

Далей прэзідэнт спыніўся на міжнародным аспекце чарнобыльскай катастрофы. Мы высока цэнім, падкрэсліў ён, дапамогу, якую нам аказвалі і аказваюць звыш трыццаці краін свету. За апошнія тры гады ў рэспубліку паступіла гуманітарных грузаў на агульную суму звыш ста шасцідзесяці мільёнаў долараў ЗША. Я дзякую, заявіў Аляксандр Лукашэнка, за гэта ўрадам, дабрачынным і рэлігійным арганізацыям Расіі, Германіі, Італіі, Злучаных Штатаў Амерыкі, Ірландыі, Іспаніі, Аўстрыі, Бельгіі, Кітая, Кубы. Мы ўдзячныя за прадастаўленую чвэрці мільёна беларускіх дзяцей з пацярпелых раёнаў магчымасць пабываць на аздараўленчым адпачынку за мяжой.

На вялікі жаль, і гэта замоўчваць нельга, аб'ёмы рэальнай дапамогі і механізм яе аказання сёння далёка не адэкватныя маштабам і наступствам аварыі. Было шмат, як аказалася, дэкларатыўных заяў — у тым ліку і рэзалюцый Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Прапаноўваліся і прапаноўваюцца кансультатыўныя паслугі, аплачваюцца заходнія эксперты. Гэта значыць у краіну грошы не паступаюць, пераразмяркоўваючыся, па сутнасці, за мяжой.

Склалася ненармальная сітуацыя, калі Беларусь аказалася практычна сам-насам са сваёй бядой. Аляксандр Лукашэнка выказаў цвёрдае перакананне: сапраўдныя маштабы чарнобыльскай катастрофы і небяспека яе магчымых наступстваў да цяперашняга часу да канца не ўсвядомлены і сусветным супольніцтвам. Зусім відавочна, і гэта аднагалосна пацвярджаюць прадстаўнічыя міжнародныя навуковыя канферэнцыі, што аварыя на ЧАЭС носіць планетарны характар па сваіх выніках для здароўя людзей і для навакольнага асяроддзя ўсяго зямнога шара.

Таму мы маем права разлічваць на сапраўды сістэмную і па-сапраўднаму важкую дапамогу ўсяго сусветнага супольніцтва і міжнародных арганізацый. Не проста некарэктна, але і непрыгожа раўнадушна адварочвацца ад «плутоніевага запаведніка» (як Беларусь паспяшаліся ахрысціць на Захадзе) у цэнтры Еўрапейскага кантынента, забываючы аб тым, што навакольнае асяроддзе не прызнае пагранічных слупоў. Як, дарэчы, і аб тым, што Чарнобыльская АЭС, ад якой больш за ўсё пацярпела Беларусь, размяшчаецца зусім не на яе тэрыторыі.

Мы ўчора, сказаў далей кіраўнік дзяржавы, праплываючы па Прыпяці, выявілі цікавую рэч. Напэўна, вучоныя падумаюць над гэтай праблемай. Але ў той жа час узнікае сітуацыя: а дзе гарантыя, што праз Прыпяць, праз Днепр, праз грунтавыя воды, якія, зразумела, злучаюцца з гэтымі рэкамі, асноўная бяда — радыенукліды. Пранікаючы ў ваду, ці не паявяцца яны ў велізарнай колькасці ва Украіне, у чыстых раёнах і ў Чорным моры, а затым і далей? Дзе гарантыя таго, што так не будзе? Таму, адзначыў Аляксандр Лукашэнка, калі сёння сусветнае супольніцтва лічыць, што гэта не яго праблема, то наступствы Чарнобыля могуць быць яшчэ больш цяжкімі для планеты.

Лічу, сказаў прэзідэнт, што ў цывілізаваным, па-сапраўднаму дэмакратычным свеце павінны быць нормай гуманныя адносіны да таго, хто пацярпеў не па сваёй віне, не кажучы ўжо аб элементарным — аб кампенсацыі нанесенага суседу ўрону. Што ж атрымліваецца? Як прад'яўляць Беларусі розныя недастойныя ультыматумы і вучыць нас, як жыць, дык ахвотнікаў, як кажуць, безліч. Але як даходзіць справа да канкрэтнай дапамогі ў ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай аварыі, а гэта неабходна не толькі нам, але і сумежным краінам і самому далёкаму замежжу, — тут усякая заўзятасць прападае!

Аляксандр Лукашэнка ў сувязі з гэтым прывёў некалькі паказальных прыкладаў. Так, яшчэ ў верасні 1991 года на падставе пераліку патрэбнасцяў у дапамозе, прадастаўленага пацярпелымі ад Чарнобыля рэспублікамі, ААН склала «Зводны план па міжнароднаму супрацоўніцтву з мэтай змякчэння наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС». У яго ўвайшоў шэраг праектаў, для ажыццяўлення якіх прадугледжвалася фінансаванне ў памеры звыш 646 мільёнаў долараў ЗША. План так і не быў рэалізаваны.

Другі прыклад: у выніку дасягнутых дамоўленасцяў у рэспубліцы ў адпаведнасці з міжнародным праектам «ЧОС» (Чарнобыльскі эпідэміялагічны рэестр) павінны былі быць створаны поўная камп'ютэрная і аўтаматызаваная базы даных аб стане здароўя насельніцтва, якое пражывае ў Слаўгарадскім і Хойніцкім раёнах, а таксама наладжана перадача інфармацыі ў абласныя і рэспубліканскія Рэгістры асоб, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы. Фінансаванне праекта павінна было ажыццяўляцца Еўрапарламентам, а таксама фірмамі «Алівеці» (Італія) і «Бюль» (Францыя). Для нашай рэспублікі планавалася выдзяленне 1 млн. 200 тысяч мільёнаў долараў ЗША. Праект павіс у паветры. І аб гэтым дэмакратычная сытая Еўропа сёння не гаворыць.

А вось яшчэ адзін прыклад — праект Д-05 для Беларусі. Яго назва — «Будаўніцтва рэабілітацыйных цэнтраў для інвалідаў з зон, якія пацярпелі ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС». Гэтыя цэнтры павінны былі быць пабудаваны ў Мінску, Гомелі, Магілёве, Пінску, Брэсце, Віцебску і Гродне. Патэнцыяльнымі партнёрамі былі вызначаны спецыяльныя арганізацыі ААН і Сусветная арганізацыя аховы здароўя. Мяркуемая сума дапамогі — 20 мільёнаў долараў ЗША. Рэалізацыя гэтага праекта дала б магчымасць абслугоўваць штогод да чатырох тысяч інвалідаў-чарнобыльцаў. Праект так і застаўся праектам.

Каментарыі тут не патрэбны. А гэтыя факты, сказаў кіраўнік дзяржавы, я спецыяльна прыводжу, каб сёння пачулі і тыя «барацьбіты» за дэмакратыю ў Беларусі, якія паважаюць міжнародныя нормы і прынцыпы, і зрабілі для сябе вывад, як жа яны паважаюць гэтыя міжнародныя дамоўленасці і абавязацельствы перад нашай краінай.

Раёны Беларусі, што пацярпелі ад Чарнобыля, — гэта, па сусветных стандартах, зона бедства, куды павінна накіроўвацца разнастайная дапамога, і ў першую чаргу — Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый. Але сёння гэта дапамога настолькі мізэрная, што аб ёй і ўпамінаць неяк няёмка.

Я думаю, падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка, што пара ўжо сусветнаму супольніцтву, праз цэлых дванаццаць гадоў пасля аварыі, перайсці ад дыскусій і тэарэтычных семінараў па яе праблемах да канкрэтнай работы па самых розных напрамках мінімізацыі наступстваў Чарнобыля. Перайсці ад слоў спачування да рэальнага ўдзелу ў ліквідацыі гэтай бяды.

Прэзідэнт выказаў надзею, што міжнародныя арганізацыі, у першую чаргу ААН, СААЗ, МАГАТЭ, ацэняць, нарэшце, у поўнай меры значэнне чарнобыльскай праблемы і актывізуюць свой удзел у ліквідацыі наступстваў велізарнейшай тэхнагеннай катастрофы адыходзячага XX стагоддзя. Тым больш, што яны ў гэтым зацікаўленыя не ў меншай меры, чым Беларусь. Што ж датычыць брудных лахманоў замест адзення, металалому замест заяўленай тэхнікі, сапсаваных прадуктаў і лекаў у ярка размаляваных кантэйнерах з надпісам «гуманітарная дапамога», то няхай яны застануцца на сумленні так званых «дабрадзеяў». Як сказаў аднойчы Джэк Лондан: «Міласэрнасць не ёсць костка, кінутая сабаку. Міласэрнасць — гэта костка, раздзеленая з сабакам, калі галодны не менш за яго».

Мы ніколі не будзем выпрошваць крыхі, якія нам спрабуюць кінуць з барскага стала пад выглядам «гуманітарнай дапамогі», сказаў Аляксандр Лукашэнка. Дзякуй Богу, пачуцця ўласнай годнасці беларускаму народу не пазычаць. Наш народ вынес многае. Вынес усю Вялікую Айчынную вайну. Пераможа і Чарнобыль. З дапамогай Захаду ці без яе — але абавязкова пераможа. Іншага выйсця ў нас няма.

А пакуль мы вымушаны разлічваць пераважна толькі на сябе. На свае ўласныя сілы. І зыходзіць з таго, што змагацца з наступствамі чарнобыльскай катастрофы нашай краіне, як і раней, давядзецца самой.

Кіраўнік дзяржавы далей нагадаў, што Беларусь працяглы перыяд знаходзілася ў сацыяльна-эканамічным і палітычным крызісе, з якога мы паступова выбіраемся. Тым не менш, нават у такіх складаных умовах, пачынаючы з 1991 года, на ліквідацыю наступстваў аварыі на ЧАЭС выдзяляліся велізарныя сродкі, якія за гэты перыяд склалі амаль 1,5 гадавога бюджэту краіны.

За кошт гэтых сродкаў з забруджаных раёнаў было адселена каля ста трыццаці пяці тысяч чалавек, для якіх пабудавана звыш пяцідзесяці тысяч кватэр і дамоў сядзібнага тыпу. З 1990 года ўведзена ў эксплуатацыю школ амаль на трыццаць тысяч месцаў, дашкольных устаноў — на дзесяць тысяч месцаў, бальніц — на дзве тысячы ложкаў, абмулаторна-паліклінічных устаноў — амаль на адзінаццаць тысяч наведванняў у змену. Выкананы маштабныя мерапрыемствы па рэабілітацыі забруджаных тэрыторый і пахаванню радыеактыўных адходаў, па медыцынскай дапамозе і аздараўленню насельніцтва, якое пацярпела ад аварыі. Праведзены фундаментальныя навуковыя даследаванні прычын і вынікаў аварыі, вызначаны навуковыя падыходы да вырашэння чарнобыльскай праблемы.

Цяпер актыўна ўвасабляецца ў жыццё Дзяржаўная праграма Рэспублікі Беларусь па мінімізацыі і пераадоленню наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, накіраваная на ажыццяўленне рэабілітацыйных мерапрыемстваў на забруджаных тэрыторыях з вяртаннем іх у гаспадарчы абарот, на сацыяльна-бытавое развіццё і інжынернае добраўпарадкаванне населеных пунктаў, на медыцынскую ахову і аздараўленне насельніцтва, якое пацярпела ад чарнобыльскай аварыі. У адпаведнасці з ёй дакладна вызначаны статус населеных пунктаў, жыхары якіх маюць права на адсяленне. Цяпер адсяленне практычна завершана, састаў пражываючых стабілізаваўся. У ходзе рэалізацыі Праграмы ў мінулым годзе ўпершыню своечасова і поўнасцю былі прафінансаваны ўсе запланаваныя мерапрыемствы.

У апошнія гады работа значна палепшылася практычна па ўсіх напрамках. Мы выканалі праграму будаўніцтва і ўводу аб'ектаў у эксплуатацыю, рэалізавалі запланаваныя мерапрыемствы рэабілітацыйнага характару ў аграпрамысловым комплексе, лясной гаспадарцы, медыцынскія і аздараўленчыя меры. Мы не дапусцілі росту прадукцыі жывёлагадоўлі і раслінаводства з перавышэннем дапушчальных нормаў утрымання радыенуклідаў. Але на дасягнутых выніках спыняцца нельга, падкрэсліў прэзідэнт. Як нельга аслабляць кантроль, зніжаць ступень адказнасці за праводзімыя мерапрыемствы.

У мінулым годзе пасля прыняцця адпаведных рашэнняў у краіне створана і дзейнічае стройная сістэма арганізацыі і правядзення аздараўлення насельніцтва, якое пацярпела ў выніку катастрофы. Дзяржава робіць усё магчымае, каб аблягчыць умовы жыцця і работы гэтых людзей. Дае ўсё, што ў яе сілах. Кожны зэканомлены рубель мы накіроўваем і будзем накіроўваць перш за ўсё ў чарнобыльскія раёны. У сувязі з гэтым дакладчык прывёў некалькі лічбаў.

На ліквідацыю наступстваў аварыі ў гэтым годзе выдзелена звыш дзесяці трыльёнаў рублёў — амаль дзесятая частка ўсяго рэспубліканскага бюджэту. У тым ліку ў Гомельскую вобласць — 6,3 трыльёна рублёў, у Магілёўскую — 1,3 трыльёна, у Брэсцкую — 0,9 трыльёна рублёў. За кошт гэтых сродкаў будзе пабудавана амаль шэсцьдзесят пяць тысяч квадратных метраў жылля, школ больш чым на тысячу месцаў,

**(Працяг на 3-й стар.)**

# Чарнобыльская катастрофа і яе наступствы сталі вельмі сур'ёзным выпрабаваннем для беларускай дзяржавы.

## Наша грамадства гэты экзамен па вялікаму рахунку вытрымлівае

**(Працяг. Пачатак на 2-й стар.)**

дзіцячых дашкольных устаноў больш чым на шэсцьсот шэсцьдзесят месцаў, бальніц на сто трыццаць ложкаў, пракладзена каля ста кіламетраў водаправода, больш за шэсцьдзесят кіламетраў цепласетак, амаль трыста кіламетраў газавых сетак. Праграмай на гэты год прадугледжана аздараўленне каля трохсот тысяч чалавек, у тым ліку каля двухсот пяцідзесяці тысяч дзяцей і падлеткаў.

Акрамя гэтага, велізарныя сродкі выдзяляюцца на ліквідацыю наступстваў аварыі і паляпшэнне жыцця людзей з мясцовых бюджэтаў, сродкаў прамысловых і сельскагаспадарчых прадпрыемстваў. У цэлым гэта сума перавышае 25 працэнтаў рэспубліканскага бюджэту.

Але самі гэтыя велізарныя сродкі, падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка, яшчэ не вырашаюць праблемы. Праблема будзе вырашана толькі і выключна пры ўмове іх мэтавага і эфектыўнага выкарыстання.

Зыходзячы з гэтага, сказаў ён, я настойваю на тым — і даручаю гэта пытанне самай пільнай увазе Камітэта дзяржаўнага кантролю — каб выкарыстанне чарнобыльскіх сродкаў суправаджалася найвышэйшай патрабавальнасцю і найстражэйшым кантролем на ўсіх узроўнях выканання. У сувязі з гэтым кіраўнік дзяржавы звярнуў увагу ўдзельнікаў нарады на тыя абуральныя факты, калі выдзеленыя сродкі былі выкарыстаны не на падтрыманне насельніцтва, сацыяльна значных аб'ектаў. А ў такіх раёнах, як Рагачоўскі, Чачэрскі, Калінкавіцкі, Брагінскі, яны выкарыстоўваліся на рамонт адміністрацыйных будынкаў, у Калінкавіцкім раёне — будынка сельскага Савета.

І яшчэ адзін непрыемны факт. Сярод тых, хто атрымаў у мінулым годзе заключэнне міжведамасных экспертных саветаў па ўстанаўленню прычыннай сувязі захворванняў з наступствамі катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, ёсць людзі, якія ніякіх адносінаў да Чарнобыля не маюць. Такія выпадкі нешматлікія, але іх проста не павінна быць.

— Я цвёрда заяўляю, — сказаў прэзідэнт, — мы не можам дапусціць і не дапусцім, каб дзяржаўныя грошы, выдзяляемыя на ліквідацыю наступстваў чарнобыльскай катастрофы, выкарыстоўваліся не па прызначэнню, а тым больш, барані Божа, разбазарваліся. Патрабаванне будзе самае жорсткае і бескампраміснае. Што ж датычыць прыведзеных фактаў, то па іх будуць зроблены адпаведныя вывады.

Кіраўнікі гаспадарак павінны сёння дакладна ўсвядоміць: вырашэнне чарнобыльскай праблемы ў вызначальнай ступені залежыць ад хуткасці і эфектыўнасці эканамічнай рэабілітацыі найбольш пацярпелых рэгіёнаў, гаспадарак. Вырашаючы эканамічныя задачы на месцах, неабходна абавязкова ўлічваць фактар эканамічнай эфектыўнасці. У чарнобыльскіх раёнах неабходна больш актыўна ўкараняць прыбытковыя тэхналогіі вядзення сельскай гаспадаркі, новыя культуры з улікам радыяцыйнага фактару і дэмаграфічнай сітуацыі. Трэба быць больш гібкімі ў тэхналагічным плане, і тады поспех не прымусіць сабе чакаць. І такі вопыт у нас ёсць.

У якасці прыкладу рацыянальнага і прадуманага падыходу да справы Аляксандр Лукашэнка назваў Палескі радыяцыйна-экалагічны запаведнік МНС, дзе пасадзілі новую для Беларусі культуру — хмель. Тут жа — узорная гаспадарка па гадоўлі коней. У саўгасе «Судкова» Хойніцкага раёна небеспаспяхова ўкараняюцца новыя тэхналогіі вырошчвання агароднінных культур. На думку дакладчыка, трэба больш актыўна вырашаць задачу пашырэння пасеваў рапсу з мэтай скарачэння імпарту алею, пасеваў насеннікаў траў, кукурузы на зерне. Клімат і якасць угоддзяў гэта дазваляюць.

Мы, вядома, адзначыў прэзідэнт, будзем гэты пошук падтрымліваць на дзяржаўным узроўні, таму што сёння — ва ўмовах жорсткіх рыначных адносінаў — нам неабходна ісці ў нагу з часам. Шукаць незапоўненыя нішы ў рыначнай прасторы з улікам нашых магчымасцяў. У гэтай сувязі ён даручыў міністру сельскай гаспадаркі і харчавання, па-першае, з улікам асаблівасцяў радыеактыўнага забруджвання забяспечыць укараненне на забруджаных тэрыторыях новых тэхналогій і новых культур — рапсу, хмелю, насеннікаў траў і іншых, якія б давалі эканамічную выгаду і садзейнічалі рэнтабельнай рабоце гаспадарак. Па-другое, зацвердзіць планавыя закупкі насеннага зерня і насення траў у найбольш забруджаных раёнах.

У ліку прыярытэтных напрамкаў радыяцыйнай абароны насельніцтва, сказаў далей Аляксандр Лукашэнка, павінны заставацца меры, накіраваныя на атрыманне экалагічна чыстых прадуктаў харчавання. Прыемна адзначыць, што ў апошнія тры гады па фінансаванню ахоўных мераў у вёсцы мы выйшлі на даволі добры ўзровень. Сёлета на гэты напрамак выдзелена амаль 560 мільярдаў рублёў. У асноўным яны ідуць на павышэнне ўрадлівасці глебаў — вапнаванне кіслых глебаў, унясенне калійных і фосфарных угнаенняў, стварэнне культурных кармавых угоддзяў і іншыя. Гэта — значная падмога для эканомікі забруджаных гаспадарак. Нам удалося спыніць зніжэнне аб'ёмаў прымянення мінеральных угнаенняў і з 1995 года пачаць іх нарошчванне.

Яшчэ адно пытанне — кадравае. Яго я, сказаў дакладчык, востра ставіў адносна настаўнікаў і ўрачоў яшчэ ў 1996 годзе на аналагічнай нарадзе ў Магілёве. Сёння настаў час гэтак жа жорстка паставіць яго адносна ўсіх спецыялістаў у галіне сельскай гаспадаркі.

Вядома, дзяржава многае зрабіла і працягвае рабіць для стварэння адпаведных перадумоў кадравага напаўнення чарнобыльскіх раёнаў. Мы аднавілі практыку мэтавага накіравання спецыялістаў, установілі шэраг ільгот пры прыездзе на работу выпускнікоў педагагічных ВНУ, увялі кантрактную сістэму для ўрачэбных кадраў. Па ўказанню прэзідэнта ўжо два гады вядзецца будаўніцтва жылля для замацавання спецыялістаў за кошт сродкаў чарнобыльскай праграмы. Спрошчана працэдура атрымання пасведчання на права пастаяннага пражывання ў забруджаных раёнах для замежных грамадзян і асоб без грамадзянства. Але гэтага яўна недастаткова. Наогул, лічыць кіраўнік дзяржавы, кадравае ўтрыманства — гэта вынік, напэўна, элементарнай безадказнасці. Чаму ў прэзідэнта павінна галава балець ад таго, што ў канкрэтным калгасе не хапае настаўнікаў, урачоў або добрых аграномаў? А дзе кіраўнік гэтай гаспадаркі, дзе райвыканкам? Што яны зрабілі для таго, каб забяспечыць дастойныя ўмовы — працоўныя, бытавыя — для прываблівання спецыялістаў? Хопіць ужо сядзець і спадзявацца, што востра неабходныя кадры «зваляцца на галаву»! Хопіць чакаць, калі праблема будзе вырашана ў цэнтры! Вы, заявіў Аляксандр Лукашэнка, звяртаючыся да ўдзельнікаў нарады, — гаспадары ў сваіх абласцях, раёнах, калгасах і саўгасах. Вы і дзейнічайце. А дзяржава дапаможа.

Настаў час сур'ёзна падумаць аб змяненнях у нашай інвестыцыйнай палітыцы. Усе ведаюць, якія цяжкасці зведваюць найбольш пацярпелыя гаспадаркі з новай тэхнікай, з племянной жывёлай. Але падтрымка гэтых напрамкаў не павінна стаць практыкай утрыманства. Роля дзяржавы не ў тым, каб пастаянна ўтрымліваць такія гаспадаркі, а ў тым, каб прадастаўляць ім магчымасці і дапамогу для наступнага самастойнага развіцця. А гэта — прынцыповая розніца. Аляксандр Лукашэнка даручыў ураду разгледзець гэта пытанне і ў самыя сціслыя тэрміны ўнесці яму канкрэтныя прапановы. Ён даручыў таксама міністру фінансаў тэрмінова вырашыць праблему далейшага фінансавання будаўніцтва спецыялізаванага дыспансера ў Гомелі. Міністру фінансаў трэба падумаць і аб перадачы ў Гомельскай вобласці ў камунальную ўласнасць аб'ектаў сацыяльна-бытавога прызначэння, якія маюць для рэгіёна горадаўтваральнае значэнне.

Цяпер, сказаў далей прэзідэнт, мы паставілі перад сабой задачу перавесці ўсе гаспадаркі ў забруджаных раёнах на чыстае газавае паліва. Усе вы ведаеце, што ў драўняным попеле радыеактыўны цэзій захоўваецца. Потым ён трапляе ў глебу, яго ўсмоктваюць расліны. А затым і чалавечае здароўе трапляе пад пагрозу. І гэтак далей.

Вядома ж, вырашыць праблему газіфікацыі «брудных» раёнаў — вялікія грошы, вялікая праблема. У сувязі з гэтым дакладчык папрасіў МНС дэталёва вывучыць гэту праблему сумесна з аблвыканкамамі і ўнесці канкрэтныя прапановы па яе развязцы.

Брэсцкаму аблвыканкаму не адкладваючы трэба вырашыць усе тэхнічныя пытанні і з 1999 года пачаць работы па газіфікацыі трох найбольш пацярпелых раёнаў. Міністэрству аховы здароўя трэба зняць усе праблемы з рамонтам у чарнобыльскай зоне бальніц і ФАПаў, забеспячэннем іх інвентаром, бялізнай, харчаваннем, медыкаментамі.

Стварыўшы Рэспубліканскі цэнтр па аздараўленню і санаторна-курортнаму лячэнню, адзначыў кіраўнік дзяржавы, мы чакалі і чакаем ад яго канкрэтных вынікаў работы з пацярпелым насельніцтвам. Усе намаганні тут неабходна накіраваць на тое, каб кожны чалавек, які мае патрэбу ў аздараўленні, мог атрымаць кваліфікаваную медыцынскую дапамогу. І не трэба захапляцца паслугамі здраўніц і санаторыяў блізкага і далёкага замежжа, дзе пуцёўкі ў два—два з паловай разы даражэй за рэспубліканскія, а эфектыўнасць аздараўлення часам ніжэйшая.

Недапрацоўваюць абслуговыя арганізацыі: жыллёва-камунальнай гаспадаркі, транспарту, бытавога абслугоўвання. Міністры, кіраўнікі канцэрнаў асабіста павінны наведаць усе пацярпелыя раёны і на месцы вырашыць праблемы сваіх галін.

Хоць крыху і палепшыў работу Белкаапсаюз, праблемы ўсё ж ёсць. Кожны магазін, кожную сталовую ў чарнобыльскай зоне трэба зрабіць узорнымі! Нельга дапускаць гандлёвыя «накруткі», таму што ў хворых людзей кожны рубель на ўліку.

Дакладчык таксама нагадаў міністру спорту і турызму, што аздараўленне пацярпелых ад чарнобыльскай аварыі — яго клопаты не меншыя, чым міністра аховы здароўя. А пакуль што ініцыятыў і канкрэтных прапаноў не чуваць.

Пэўныя прэтэнзіі, на жаль, ёсць сёння і да вучоных Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, якія займаюцца вывучэннем праблем Чарнобыля. На думку Аляксандра Лукашэнкі, з моманту аварыі прайшоў вельмі значны тэрмін, каб працягваць займацца навукай дзеля навукі. Мы маем права патрабаваць канкрэтных вынікаў і рэкамендацый аб шляхах і метадах надзейнай абароны людзей. Неабходна дакладная інфармацыя аб дозах апраменьвання насельніцтва за ўвесь пасляаварыйны перыяд, што дало б магчымасць Міністэрству аховы здароўя планаваць аказанне своечасовай медыцынскай дапамогі.

Прэзідэнт папярэдзіў кіраўніка МНС Івана Keнікa аб тым, што па выніках гэтага года будзе праведзена рэвізія расходавання міністэрствам грашовых сродкаў на так званую навуку.

Нас вельмі хвалюе, сказаў далей дакладчык, рост у насельніцтва хвароб органаў дыхання, стрававання, нервовай і касцёва-мышачнай сістэмы, сістэмы кровазвароту, якія праявіліся перш за ўсё ва ўдзельнікаў ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС. Мы шмат гаворым аб рэабілітацыі, але дзе ж яе навукова абгрунтаваная праграма? Чаму да гэтага часу не распрацавана праграма сацыяльна-эканамічнага развіцця пацярпелых тэрыторый?

Гэтыя прэтэнзіі — і да вучоных таксама, і да членаў урада. Недапушчальна зацягваецца сёння вырашэнне пытання правядзення эканамічна абгрунтаваных ахоўных мераў, зніжэння сабекошту і павышэння якасці сельскагаспадарчай прадукцыі. Важна забяспечыць не толькі дапушчальнае ўтрыманне радыенуклідаў, але і канкурэнтаздольнасць канчатковага прадукту, а гэтага немагчыма дабіцца без павышэння ўраджайнасці і прадукцыйнасці жывёлагадоўлі. Мы павінны вырашыць праславутую «стронцыевую праблему», мабілізаваўшы для гэтага лепшыя навуковыя сілы. На думку Аляксандра Лукашэнкі, менавіта вучоныя, якіх не змаглі падзяліць ніякія граніцы, павінны быць ініцыятарамі напаўнення рэальным зместам дасягнутых з Расіяй і Украінай дамоўленасцяў па лініі Чарнобыля. Ён папрасіў Нацыянальную акадэмію навук Беларусі звярнуць на ўсе гэтыя пытанні самую сур'ёзную ўвагу.

Думаю, адзначыў прэзідэнт, і міністру культуры трэба сказаць аб неабходнасці павярнуцца тварам да чарнобыльскіх раёнаў. Людзі, якія пацярпелі ад страшнай аварыі, маюць патрэбу ў асаблівых да сябе адносінах. Давайце будзем і праз культуру ўзнімаць настрой і дух гэтых людзей. Неабходна адрадзіць практыку рэгулярных выездаў дзеячаў культуры, артыстаў, лепшых мастацкіх калектываў у чарнобыльскія раёны.

Галоўная задача для «вертыкалі» ўлады, прэзідэнцкай «вертыкалі» — кантроль і арганізацыя выканання прынятых агульнадзяржаўных рашэнняў, падкрэсліў далей кіраўнік дзяржавы. Гэта першае. Другое: аператыўна і дакладна рэалізоўваць мясцовыя і рэгіянальныя чарнобыльскія праблемы. Трэцяе: праз кіраўнікоў гаспадарак, дэпутатаў мясцовых Саветаў дайсці літаральна да кожнага чарнобыльца і дапамагаць яму штодзённа ў яго будзённых клопатах. Гэта можна паставіць як самае галоўнае — быць з людзьмі. Чацвёртае: прагназіраваць развіццё сітуацыі, ствараць матэрыяльна-тэхнічныя, фінансавыя рэзервы для вырашэння ўсяго спектра праблем, што ўзнікаюць у пацярпелых раёнах.

Прэзідэнт таксама звярнуўся да сродкаў масавай інфармацыі ўзяць пад кантроль выкананне важнейшых чарнобыльскіх праектаў, указаў і распараджэнняў кіраўніка дзяржавы, пастаноў урада, вырашэнне сацыяльна-бытавых праблем насельніцтва чарнобыльскіх раёнаў. Людзі павінны ведаць, што пацярпелым удзяляецца пастаянная ўвага, што іх праблемы, іх клопаты хвалююць краіну. СМІ павінны больш смела выяўляць недахопы, разбураць кругавую паруку чыноўнікаў, якая не ўлічвае інтарэсы простага чалавека.

Аляксандр Лукашэнка асабліва падкрэсліў важнасць гранічна карэктных і ўважлівых адносінаў да людзей з боку кіраўнікоў гаспадарак, выканаўчай «вертыкалі». Кожны раз, калі ў час сваіх паездак па забруджаных радыяцыяй раёнах я сустракаўся і гутарыў з людзьмі, сказаў ён, то пераконваўся: праблемы, што непакояць іх, можна лёгка вырашыць на месцы. Размова ідзе аб харчаванні, лячэнні, бытавых пытаннях. Не трэба ж для гэтага рэфарміраваць заканадаўства. Не патрэбны і сродкі з дзяржаўнага бюджэту. Патрэбны ўсяго толькі дзелавы, адказны і добразычлівы, далёкі ад чыноўніцкай фанабэрыі падыход. Трэба зрабіць усё магчымае для таго, каб чалавек, які звярнуўся да нас па любому пытанню, сказаў бы потым: «Так, гэта рэальная ўлада. Дзейсная і ўважлівая». Вось гэта і будзе вышэйшая ацэнка нашай з вамі працы. Ад нашай з вамі адказнай і эфектыўнай работы па пераадоленню наступстваў чарнобыльскай бяды залежыць палітычная атмасфера ў грамадстве і давер да ўлады. «Я, як прэзідэнт, і ўрад, — заявіў Аляксандр Лукашэнка, — ні на дзень не аслаблялі і ніколі не аслабім кантроль за станам спраў на гэтым нялёгкім напрамку жыцця беларускага грамадства».

Затым дакладчык назваў, зыходзячы з гутаркі, што адбылася на гэтай нарадзе, асноўныя пытанні стратэгіі і тактыкі на бліжэйшыя два гады. Прычым, паводле яго слоў, яны будуць карэкціравацца.

Першая праблема, самая цяжкая, — кадры. У сувязі з гэтым жыллё, заработная плата, кантрактная сістэма, мэтавы набор, перш за ўсё, спецыялістаў сельскай гаспадаркі. Другая праблема — газіфікацыя забруджаных тэрыторый раёнаў, асабліва Палесся. Трэцяя праблема — водазабеспячэнне забруджаных раёнаў.

Трэба і Расію папрасіць, адзначыў Аляксандр Лукашэнка, каб яна не толькі скарачала, але наадварот, павялічыла пастаўкі газу ў Беларусь, у тым ліку і па гуманітарнай дапамозе. Гэта была б самая дзейсная гуманітарная дапамога. Расія павінна прымаць удзел у мінімізацыі і ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы. Мы разумеем, у яе няма валюты. Але газ прыродны, у здабычу якога і беларусы ў свой час уклалі нямала працы, у Расіі ёсць! Тады чаму б не дапамагчы пацярпелым людзям, пастаўляючы ў гэтыя раёны газ, хоць бы працэнтаў 10—20 ад таго, што мы зрасходуем? Гэта, падкрэсліў прамоўца, новая пастаноўка пытання.

Тое ж самае і адносна дапамогі з боку Украіны. На Чарнобыльскай АЭС, сказаў прэзідэнт, перавытворчасць электраэнергіі. Чаму б не пастаўляць у Беларусь гэту энергію па прымальнай для нас цане?

Чацвёртая праблема — чыстае харчаванне, асабліва дзяцей. Іх патрэбна ў гэтых раёнах карміць чыстымі прадуктамі, яны павінны атрымліваць чыстае харчаванне. Ганьба будзе дзяржаве, калі мы гэтага не зробім, заявіў прэзідэнт.

Пятая праблема — медыцынскае абслугоўванне, лячэнне і аздараўленне. Гэта клопаты Міністэрства аховы здароўя, Дэпартамента па гуманітарнай дапамозе. У бліжэйшы час Дэпартамент па гуманітарнай дапамозе прэзідэнт паабяцаў падвергнуць асабістай капітальнай рэвізіі.

Неабходна, адзначыў Аляксандр Лукашэнка, падключаць Цэнтр па аздараўленню дзяцей, выпрацаваць сур'ёзную праграму аздараўлення па кожнаму раёну, па кожнаму чалавеку. Прычым, у нас сёння дастаткова добрых месцаў, дзе людзі могуць адпачыць. Іх нельга везці на поўдзень. Іх трэба аздараўліваць у паўночных раёнах.

Шостая праблема — інтэнсіўнае развіццё гаспадарчай дзейнасці ў чарнобыльскіх раёнах. Маюцца на ўвазе дрэваапрацоўка, травасеянне, насенняводства, вырошчванне рапсу. Пры гэтым кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што размова не ідзе аб тым, быццам заўтра трэба ехаць у 30-кіламетровую зону і араць землі. Не трэба лезці на гэтыя брудныя землі, там няма чаго рабіць. Каб Бог даў убраць тое, што ў нас ёсць. Але не перашкаджайце людзям працаваць там, дзе можна.

Аляксандр Лукашэнка папярэдзіў аб недапушчальнасці ўтрыманскіх настрояў. Іх, на яго думку, ужо няма ў дзяржаўных служачых, у кіраўнікоў органаў улады. Але цяпер трэба зрабіць так, каб людзі, радавыя нашы грамадзяне, пазбавіліся ад гэтага сіндрому. Людзі павінны разумець, што дзяржава іх у бядзе не пакінула і не пакіне, што яна будзе лячыць іх, аздараўліваць, карміць і гэтак далей. Але і самі людзі павінны пачынаць паціху варушыцца і працаваць. Кожны чалавек павінен старацца перш за ўсё сябе і сваю сям'ю забяспечыць, а мы павінны ім дапамагчы ў гэтым. Утрыманства быць не павінна, нягледзячы на каласальную падтрымку дзяржавы па ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы.

Прэзідэнт сказаў далей, што плануе восенню гэтага года паездку ў раёны Магілёўскай вобласці, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы, дзе яшчэ раз звернецца да вырашэння актуальных пытанняў ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС.

❑

***На нарадзе са справаздачамі выступілі кіраўнікі МНС і абласцей.***

**Іван КЕНІК, міністр па надзвычайных сітуацыях:**

— У Беларусі, дзякуючы разуменню вастрыні чарнобыльскай праблемы, пастаяннай увазе і падтрымцы вышэйшага кіраўніцтва рэспублікі, рэалізацыя дзяржаўнай чарнобыльскай праграмы цяпер пастаўлена на больш высокі дзяржаўны ўзровень, чым ва Украіне і ў Расіі. У першую чаргу гэта датычыць забеспячэння фінансаваннем усіх напрамкаў, прадугледжаных праграмай. Нягледзячы на цяжкасці, дзяржава знаходзіла і знаходзіць магчымасць выдзяляць значныя сродкі для рэабілітацыі пацярпелага насельніцтва і рэгіёнаў, забеспячэння радыяцыйнай абароны, павышэння ўзроўню жыцця на забруджаных тэрыторыях. Па гэтай прычыне не быў закрыты ні адзін прадугледжаны напрамак работ, хоць зразумела, што сродкі не маглі быць выдзелены ў поўнай адпаведнасці з праграмай.

Я дазволю сабе спыніцца толькі на асноўных выніках за перыяд з 1996 года, калі пачала дзейнічаць новая дзяржаўная праграма. За гэты час праведзена значная работа па ажыццяўленню ахоўных мерапрыемстваў, паляпшэнню ўмоў пражывання на забруджанай тэрыторыі. У прыватнасці, працягвалася рэалізацыя праграмы газіфікацыі пацярпелых раёнаў. За апошнія два гады пракладзена 315 кіламетраў сетак газаправода. Вельмі важным вынікам стала зняцце праблемы цеплазабеспячэння і гарачага водазабеспячэння ў раённых цэнтрах пацярпелых рэгіёнаў і пасёлках для перасяленцаў. Значныя сродкі ўкладваюцца ў добраўпарадкаванне забруджаных населеных пунктаў, стварэнне ў іх належнай сацыяльна-культурнай базы.

Адным з новых напрамкаў у чарнобыльскай інвестыцыйнай палітыцы стала будаўніцтва жылля для замацавання кадраў у найбольш пацярпелых раёнах, у першую чаргу на вёсцы. За гэты час пабудавана 246 дамоў, сёлета павінна быць здадзена яшчэ 212. Думаю, што па меры магчымасцяў і пасля вырашэння іншых задач інвестыцыі ў гэты напрамак будуць павялічвацца, паколькі наяўнасць кадраў з'яўляецца рашаючай умовай рэабілітацыі пацярпелых раёнаў, іх эканамічнай стабільнасці.

Нагадаю, што ў адпаведнасці з указам прэзідэнта краіны ў апошнія гады адбыўся істотны крэн у бок інтарэсаў найбольш забруджаных раёнаў. Інвестыцыі для 21 найбольш забруджанага раёна выдзяляюцца ў гадавых планах

**(Заканчэнне на 4-й стар.)**

*З матэрыялаў рэспубліканскай нарады па пытанню рэалізацыі Дзяржаўнай праграмы па мінімізацыі і пераадоленню наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай атамнай станцыі*



# Чарнобыльская катастрофа і яе наступствы сталі вельмі сур'ёзным выпрабаваннем для беларускай дзяржавы.

## Наша грамадства гэты экзамен па вялікаму рахунку вытрымлівае

**(Заканчэнне. Пачатак на 2-3-й стар.)**

асобным радком, абмяркоўваюцца з выездам на месца. Доля капітальных укладанняў гэтых раёнаў склала ў 1997 годзе ў Гомельскай вобласці 63,2 працэнта, у Магілёўскай — 41, у Брэсцкай — 58 працэнтаў. У 1998 годзе адпаведна 66,9; 47,4 і 63,9 працэнта. Адзначу, што ў Магілёўскай вобласці значная частка сродкаў накіроўваецца ў пасёлкі для перасяленцаў.

Цяпер для кожнага з названых раёнаў сумесна з райвыканкамамі распрацоўваюцца праграмы ахоўных мераў на перыяд да 2003 года.

Дзяржаўнай праграмай прадугледжана будаўніцтва такіх аб'ектаў агульнарэспубліканскага значэння, як лячэбна-дыягнастычны корпус НДІ радыяцыйнай медыцыны ў Аксакаўшчыне, цэх дзіцячага харчавання на Іванаўскім масламалзаводзе, Гродзенскі завод медпрэпаратаў.

У адпаведнасці з прэзідэнцкай праграмай «Дзеці Беларусі» ажыццяўляецца будаўніцтва і рэканструкцыя аб'ектаў аздараўлення і адпачынку, у тым ліку рэабілітацыйна-аздараўленчых цэнтраў круглагадовага дзеяння з арганізацыяй навучальнага працэсу. Шэсць такіх цэнтраў ужо функцыянуе.

Значны аб'ём займаюць работы па забеспячэнню радыяцыйнай абароны насельніцтва ў рамках мэтавых праграм.

На першым месцы стаяць ахоўныя меры ў аграпрамысловым комплексе. У першую чаргу вырашаецца галоўная задача — забеспячэнне вытворчасці нарматыўна чыстай прадукцыі. У выніку прымаемых мераў удаецца падтрымаць на даволі прымальным узроўні вытворчасць сельгаспрадукцыі абмежаванага выкарыстання па фактару ўтрымання радыенуклідаў. Такая прадукцыя накіроўваецца на перапрацоўку або выкарыстоўваецца для адкорму жывёлы. Аднак спецыялісты пацвердзяць, што спыняць ахоўныя мерапрыемствы нельга.

У апошнія гады асаблівая ўвага ўдзялялася праблеме атрымання нарматыўна чыстага малака ў прыватным сектары. На гэта былі накіраваны работы па меліярацыі зямель, выдзяляліся ў заяўляемых аб'ёмах сродкі на стварэнне культурнай пашы і сенажацяў, пастаўляецца камбікорм з дабаўкамі, што звязваюць цэзій. Пэўныя вынікі ёсць. Гэта пацвярджае і паслядоўнае ў цэлым зніжэнне доз унутранага апраменьвання сельскага насельніцтва, якое пражывае ў забруджаных раёнах, і зніжэнне максімальных значэнняў забруджвання малака.

У вырашэнні чарнобыльскіх праблем мы пастаянна апіраемся на вынікі навуковых даследаванняў.

За мінулыя гады сабраны унікальны матэрыял аб радыяцыйным уздзеянні на чалавека. Атрыманы важныя вынікі ў прагназіраванні развіцця анкалагічных захворванняў, вывучаны паводзіны радыенуклідаў у сістэме «глеба-расліна», вызначаны каэфіцыенты пераходу радыенуклідаў цэзію і стронцыю ў шматгадовыя травы, збожжавыя, бабовыя, агародніна, тэхнічныя культуры. Рэгулярна абнаўляюцца карты радыеактыўнай абстаноўкі. На 52 пастах вядзецца штодзённае вымярэнне радыяцыйнага фону, у тым ліку ў зоне патэнцыяльнага ўздзеяння АЭС Украіны, Расіі і Літвы.

Павінны быць прадоўжаны прыкладныя і фундаментальныя даследаванні, якія забяспечваюць навуковае забеспячэнне планавання, удасканалення і рэалізацыі комплексу мерапрыемстваў па радыяцыйнай абароне насельніцтва, якое пражывае ва ўмовах хранічнага павышанага апраменьвання. Неабходна працягваць вывучэнне стану здароўя ўсіх катэгорый пацярпелага насельніцтва.

Ад вучоных-эканамістаў хацелася б атрымаць больш канкрэтных прапаноў па вырашэнню праблем эканамічнай рэабілітацыі найбольш пацярпелых рэгіёнаў. Галоўная задача вучоных-аграрыяў — даць прапановы па новых прыбытковых тэхналогіях, новых напрамках, культурах, якія ўлічвалі б рэальную дэмаграфічную сітуацыю і фактар радыеактыўнага забруджвання. Найбольш пацярпелыя гаспадаркі, як ніякія іншыя, маюць патрэбу ў такіх напрамках вытворчасці, якія забяспечвалі б прыбытковасць.

Эфектыўнае процідзеянне наступствам чарнобыльскай катастрофы патрабуе канструктыўнага міжнароднага супрацоўніцтва, прыцягнення інтэлектуальных і матэрыяльных рэсурсаў міжнародных арганізацый, навукова-даследчых цэнтраў. І мы спрабуем максімальна выкарыстоўваць існуючыя магчымасці. Аднак хацелася б, каб гэта супрацоўніцтва было больш плённым, а дапамога — больш істотнай.

Хачу адзначыць, што дасягнутыя вынікі ў вырашэнні чарнобыльскіх праблем сталі ў многім магчымымі дзякуючы асабістай увазе да іх з боку прэзідэнта рэспублікі. Нагадаю, што па яго даручэнню два гады найбольш пацярпелым раёнам выдзялялася па 1 мільярду рублёў для аператыўнага вырашэння ўзнікаючых праблем жыццезабеспячэння. І там, дзе да выкарыстання выдзеленых грошай падышлі адказна, гэта стала вялікай дапамогай у вырашэнні праблем, што ўзнікаюць штодзённа.

Вось ужо трэці год забруджаным гаспадаркам за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту выдзяляюцца фосфарныя і калійныя ўгнаенні. Тром гаспадаркам Столінскага раёна перададзена 2900 гектараў зямель, якія адносіліся раней да ваеннага палігона. У гэтым жа раёне ў калгасе «Рубельскі» пабудаваны мост праз раку Гарынь.

Відавочныя і пазітыўныя перамены ў дзейнасці Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Умацавалася яго матэрыяльна-тэхнічная база, тут створаны дрэваперапрацоўчая вытворчасць, каняфермы, стала магчымым вырашэнне шэрагу пытанняў сацыяльнага плана.

Для вырашэння праблемы з кадрамі па ініцыятыве прэзідэнта пачалося будаўніцтва жылля. Прынята рашэнне аб аднаўленні сістэмы размеркавання выпускнікоў ВНУ і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Пастановай урада прадугледжана спрошчаная працэдура атрымання пасведчання на права пастаяннага жыхарства для замежных грамадзян і асоб без грамадзянства, якія прыязджаюць у забруджаныя раёны. Толькі ў Брагінскім раёне прапісаліся 74 сям'і.

На заканчэнне хачу спыніцца на некаторых актуальных з пункту гледжання МНС пытаннях.

Да цяперашняга часу ў Беларусі былі самыя жорсткія дапушчальныя ўзроўні ўтрымання радыенуклідаў у прадуктах харчавання ў параўнанні з Расіяй і Украінай. Але нядаўна і Украіна, і Расія прынялі новыя, яшчэ больш жорсткія нарматывы. Так, па малаку ў Расіі ўстаноўлены дапушчальны ўзровень 50 Бк/л, тады як наш узровень — 111 Бк/л. Такая ж сітуацыя па мясу, шэрагу іншых прадуктаў. З-за гэтага ўзнікае не толькі праблема гандлю з Расіяй і Украінай. Нам прыйдзецца таксама ўлічваць тэндэнцыю ўстанаўлення больш жорсткіх патрабаванняў да ўтрымання радыенуклідаў у прадуктах харчавання. А гэта немінуча запатрабуе дадатковага фінансавання ахоўных мерапрыемстваў, павышэння якасці работы ўсіх звёнаў, дзе гэтыя мерапрыемствы рэалізуюцца, — гаспадарак, перапрацоўчых прадпрыемстваў. Павінна быць забяспечана самае строгае захаванне тэхналагічнай дысцыпліны ў поўнай адпаведнасці з рэкамендацыямі і патрабаваннямі «Кіраўніцтва па вядзенню сельскай гаспадаркі на забруджаных радыенуклідамі землях».

Трэба ўзмацніць работу па вучобе кадраў усіх узроўняў, па прывіццю новай культуры паводзінаў чалавека ва ўмовах пражывання на забруджаных тэрыторыях. Неабходна ў больш шырокім маштабе разгарнуць інфармаванне і асвету насельніцтва аб шляхах зніжэння радыяцыйнай рызыкі. Тут вялікае поле дзейнасці для Міністэрства аховы здароўя і Мінадукацыі.

Цяпер на ўзгадненні ў міністэрствах і ведамствах знаходзяцца прапановы МНС і аблвыканкамаў аб тым, каб вырашаць праблему газазабеспячэння жылых дамоў прыватнага сектара ў забруджаных раёнах за кошт сродкаў чарнобыльскай праграмы. Прасілі б падтрымаць гэту прапанову.

Трэба будзе вырашыць і пытанне, што датычыць пракладкі газаправодаў да забруджаных раёнаў Брэсцкай вобласці.

Трэба прадоўжыць вырашэнне праблемы пітнога водазабеспячэння з мэтай забеспячэння да 2000 года кожнай сям'і вадой патрабуемай якасці. Неабходна паскорыць перадачу на баланс службаў жылкамунгаса водаправодных сетак і водазаборных збудаванняў у сельскіх населеных пунктах з тым, каб іх эксплуатацыяй і ўтрыманнем займаліся прафесіяналы.

**Уладзімір ЗАЛАМАЙ, старшыня Брэсцкага аблвыканкама:**

— Радыяцыйнаму забруджванню ў Брэсцкай вобласці падверглася 4270 квадратных кіламетраў тэрыторыі вобласці. На забруджаных тэрыторыях знаходзіцца 167 населеных пунктаў, у якіх пражываюць 167 тысяч 298 чалавек. Асноўнымі напрамкамі штодзённай дзейнасці аблвыканкама і райвыканкамаў па мінімізацыі наступстваў катастрофы былі і застаюцца: правядзенне ахоўных мерапрыемстваў для стварэння бяспечных умоў пражывання насельніцтва ў пацярпелых раёнах, сістэматычны кантроль за радыяцыйнай абстаноўкай, прадуктамі харчавання, што вырабляюцца і рэалізуюцца насельніцтву; стварэнне ўмоў для вытворчасці чыстай ад радыяцыйнага забруджвання прадукцыі сельскай гаспадаркі; спецдыспансерызацыя і далейшае ўдасканаленне медыцынскага абслугоўвання і аздараўлення жыхароў, асабліва дзяцей; рэалізацыя Закона «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС».

Адной з важнейшых задач на бліжэйшы час з'яўляецца ажыццяўленне аздараўлення і санаторна-курортнага лячэння насельніцтва, якое пацярпела ад аварыі. База аздараўленчых устаноў, якая ёсць на тэрыторыі вобласці, дае магчымасць забяспечыць стопрацэнтную патрэбнасць у аздараўленні пацярпелага насельніцтва. Разам з тым наспела праблема стварэння больш узбуйненых комплексаў па аздараўленню. І мы прымаем меры для таго, каб арганізаваць новую курортную зону ў раёне тых медыцынскіх і аздараўленчых устаноў, якія ёсць у раёне горада Брэста.

Асаблівая ўвага ўдзяляецца пытанням харчавання дзяцей і падлеткаў. Набыта і ўстаноўлена дадатковае абсталяванне, даўкамплектаваны школьныя сталовыя. І сёння мы можам сказаць, што ўсе навучэнцы агульнаадукацыйных школ атрымліваюць экалагічна чыстае двух- і трохразовае харчаванне.

У выніку праведзенага комплексу ахоўных мерапрыемстваў за 1995—1998 гады не было зарэгістравана выпадкаў паступлення на малаказаводы вобласці малака, непрыгоднага як сыравіна (з радыеактыўнасцю звыш 370 Бк/л). Скарацілася з 4,6 тысячы тон у 1994 годзе да 1,7 тысячы тон у 1997 годзе паступленне малака з актыўнасцю, што перавышае нормы. Практычна поўнасцю скарацілася паступленне на мясакамбінаты мяса з радыеактыўнасцю, якая перавышае дапушчальныя ўзроўні. Станоўчыя зрухі адбыліся ў вытворчасці чыстага малака і ў прыватным сектары. Крыху зменшылася колькасць населеных пунктаў, дзе рэгістраваліся асобныя выпадкі перавышэння дапушчальных узроўняў па малаку.

Для скарачэння колькасці незавершаных будаўнічых аб'ектаў, што ўзводзяцца за кошт рэспубліканскага бюджэту ў адпаведнасці з Дзяржаўнай праграмай Рэспублікі Беларусь па мінімізацыі і пераадоленню наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС на 1996—2000 гады, Савет Міністраў сумесна з абласцямі правёў вялікую работу, распрацаваў і зацвердзіў планы-графікі завяршэння будаўніцтва ў 1997—1999 гг. пачатых раней аб'ектаў. У 1997 годзе даведзеныя планавыя заданні ў адпаведнасці з планамі-графікамі вобласцю выкананы ў поўным аб'ёме.

У цэлым за апошнія гады праведзена вялікая работа па стварэнню бяспечных умоў пражывання насельніцтва на забруджаных радыенуклідамі тэрыторыях. Значнай актывізацыі ў правядзенні ахоўных мерапрыемстваў у вобласці і асабліва ў Столінскім раёне садзейнічала наведванне гэтага раёна прэзідэнтам краіны Аляксандрам Лукашэнкам. Трэба адзначыць, што ўсе яго даручэнні, дадзеныя ў час сустрэч з насельніцтвам і кіраўнікамі раёнаў, выкананы ў поўным аб'ёме. Больш актыўную пазіцыю пачалі займаць сродкі масавай інфармацыі ў асвятленні работы па ліквідацыі наступстваў катастрофы на ЧАЭС. Усё гэта разам дало магчымасць палепшыць умовы пражывання людзей на забруджаных радыенуклідамі тэрыторыях. Аднак працэс ліквідацыі наступстваў катастрофы на ЧАЭС пастаянна патрабуе ад нас прыняцця дзейсных мераў.

Цяпер у Пінскім, Лунінецкім і Столінскім раёнах распрацаваны раённыя праграмы па ліквідацыі наступстваў катастрофы на ЧАЭС на перыяд да 2003 года. Асноўнымі задачамі на бліжэйшы час з'яўляюцца: рэалізацыя праграмы капітальнага будаўніцтва на 1997—1999 гады, зацверджанай Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь; далейшае правядзенне ахоўных мерапрыемстваў з мэтай атрымання нарматыўна чыстай сельскагаспадарчай прадукцыі; умацаванне ў пацярпелых раёнах матэрыяльнай базы аховы здароўя, адукацыі, паляпшэнне медыцынскага абслугоўвання і аздараўлення.

Разам з тым ёсць пытанні, якія патрабуюць вырашэння на дзяржаўным узроўні. Гэта паскарэнне будаўніцтва газаправодаў-адводаў Кобрын—Пінск—Лунінец—Столін для забеспячэння экалагічна чыстым палівам насельніцтва, якое пацярпела ад аварыі: забеспячэнне сельскіх населеных пунктаў артэзіянскай вадой; вытворчасць камбікармоў з ферацыянідамі, дадатковае выдзяленне мінеральных угнаенняў.

**Аляксандр КУЛІЧКОЎ, старшыня Магілёўскага аблвыканкама:**

— У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС радыеактыўнаму забруджванню падверглася трэцяя частка тэрыторыі Магілёўскай вобласці. У зоне радыеактыўнага забруджвання пражывае больш як 150 тысяч чалавек.

Сёння можна гаварыць аб выніках работы, магчыма, і аб памылках, дапушчаных у першыя гады пасля катастрофы на ЧАЭС, часам супярэчлівых тэорыях вучоных у ацэнках таго, што адбылося, але ніхто не зможа сёння кінуць папрок у адрас тых, хто прысутнічае тут, за тыя вынікі работы, якія дасягнуты за апошні час. Вельмі шмат зроблена ў рэспубліцы, якая практычна засталася сам-насам з гэтай трагедыяй.

Можна сказаць коратка: усе даручэнні прэзідэнта, якія адлюстраваны ў чатырох пратаколах, што датычаць чарнобыльскай тэматыкі, выкананы поўнасцю. Мы на пачатак гэтага года толькі ў пасёлках увялі ў строй дзевятнаццаць школ, дваццаць дзіцячых садоў, трынаццаць амбулаторый, трынаццаць лазняў, чатыры бальніцы, восем малочнатаварных фермаў, шэсць збожжагаспадарак.

Па капукладаннях на 1 ліпеня гэтага года прафінансавана 320 мільярдаў рублёў пры гадавым ліміце 531 мільярд рублёў. На выплату льгот і кампенсацый пацярпелым накіравана больш як 200 мільярдаў рублёў. Практычна прафінансаваны ў разліковых аб'ёмах ахоўныя мерапрыемствы.

Вырашылі, бадай, адну з галоўных праблем, выкліканых чарнобыльскай катастрофай, — гэта перасяленне жыхароў з зон першачарговага і наступнага адсялення. За папярэднія гады на тэрыторыі вобласці за чарнобыльскія сродкі пабудавана больш за 9 тысяч кватэр, у тым ліку ў пасёлках для перасяленцаў — 5 тысяч кватэр, 130 аб'ектаў сацыяльна-бытавога і вытворчага прызначэння.

Сёння 70 працэнтаў расходаў на газіфікацыю жылля аплачвае дзяржава. 30 працэнтаў, згодна з існуючым палажэннем, павінна аплаціць насельніцтва. Разглядаючы пытанне газіфікацыі пасёлкаў, якія падвергліся забруджванню радыенуклідамі, неабходна выпрацаваць механізм фінансавання газіфікацыі падвор'яў. Гэта праблема не толькі Брэсцкай вобласці, але і нашай.

Аб інвестыцыйнай праграме. Па даручэнню прэзідэнта Савет Міністраў прыняў рашэнне аб тым, каб 12 раёнаў рэспублікі, у тым ліку і тры раёны нашай вобласці, якія знаходзяцца ў горшых прыродна-кліматычных, экалагічных і эканамічных умовах, падцягнуць да ўзроўню сярэдніх гаспадарак. Праграма такая прапрацавана, але, на маё здзіўленне, паступіла пісьмо, якое рэкамендуе ўсе гэтыя затраты прафінансаваць за кошт сродкаў, накіраваных на ліквідацыю наступстваў чарнобыльскай аварыі. Гэтага ні пры якіх абставінах рабіць нельга, у адваротным выпадку ў нас проста грошай хопіць толькі на праграмы, якія зацвердзіць урад, а чарнобыльскія раёны застануцца без фінансавання.

Неабходна накіраваць чарнобыльскія грошы, у першую чаргу, на ахоўныя мерапрыемствы, на эксплуатацыйныя патрэбы, таму што асноўныя фонды, сацкультбыт на працягу апошніх дзесяці гадоў на забруджаных тэрыторыях прыйшлі ў нездавальняючы стан. Неабходна таксама прыняць цэлы комплекс мераў для таго, каб прывабіць людзей працаваць у вёсцы. Сёння, сапраўды, праблема сельскіх спецыялістаў стаіць нават больш востра, чым па педагогах і ўрачах. Так атрымалася, што вось на гэту катэгорыю работнікаў мы звярнулі ўвагу, падмацавалі, прынялі дзейсныя меры. А на спецыялістаў сельскай гаспадаркі, на жаль, не.

**Мікалай ВАЙЦЯНКОЎ, старшыня Гомельскага аблвыканкама:**

— У адпаведнасці з дзяржаўнай чарнобыльскай праграмай і даручэннямі прэзідэнта працягвалася выкананне галоўнай задачы — адсяленне той катэгорыі грамадзян, якія ў адпаведнасці з законамі Рэспублікі Беларусь маюць на гэта поўнае права. Толькі за два апошнія гады пабудавана амаль 1,5 тысячы кватэр і дамоў сядзібнага тыпу, створана адпаведная інфраструктура ў месцах перасялення грамадзян.

Пракладзена каля 400 кіламетраў вода- і газаправодных сетак. Але самае галоўнае — вырашаны пытанні абароны інтарэсаў грамадзян на тых тэрыторыях, дзе, згодна з прынятым законам, людзі мелі права на выезд. Гэта датычала Брагіна, Нароўлі, Веткі, Кармы, Чачэрска, дзе радыяцыйнае забруджванне было звыш 15 кюры на квадратны кіламетр. Дзякуючы актыўнай падтрымцы з боку ўрада і прэзідэнта ўдалося газіфікаваць перш за ўсё раённыя цэнтры. Цяпер ідзе работа па газіфікацыі цэнтральных сядзіб гаспадарак. Можа, справа дойдзе і да буйных населеных пунктаў.

У пераважнай большасці насельніцтва з'явілася ўпэўненасць у тым, што дзень заўтрашні прынясе нармальныя жыццёвыя ўмовы, што можна тварыць, жыць, нараджаць. За першы квартал гэтага года ў Брагіне нарадзілася больш за 30 дзяцей. Вядуцца работы па рамонту і пашырэнню аб'ектаў аховы здароўя.

Цяпер мы ўступілі ў трэці, аднаўленчы этап, які мае свае адметныя рысы. Разам з адсяленнем і добраўпарадкаваннем пасёлкаў для перасяленцаў асноўная ўвага сканцэнтравана на зніжэнні дозавых нагрузак у насельніцтва, якое пражывае на забруджаных тэрыторыях. Размова ідзе аб нармальным харчовым забеспячэнні. У гэтым плане нямала робіцца Белкаапсаюзам.

Аднак ёсць асаблівасці, якія датычаць толькі Гомельшчыны. У нас амаль 25 тысяч чалавек пражываюць і будуць пражываць на тэрыторыі з узроўнем забруджвання звыш 15 кюры на квадратны кіламетр. Калі ў іншых абласцях вырашаны пытанні комплекснага адсялення поўнасцю, то мы на гэты крок не змаглі пайсці. І, напэўна, зрабілі правільна. Так, ёсць пэўная ступень рызыкі, звязаная са здароўем людзей, асабліва дзяцей. Аднак меры па паляпшэнню арганізацыі харчавання і аздараўлення, я лічу, будуць дастатковымі для таго, каб гэту ступень рызыкі зменшыць да мінімуму.

Кадравая праблема, аб якой тут было ўжо нямала сказана, для нас асабліва балючая. Дзякуючы таму, што створаны Гомельскі медыцынскі інстытут, часткова мы знялі праблему забеспячэння медыцынскімі паслугамі. Засталася праблема з забеспячэннем педагагічнымі кадрамі, але і яна ўжо не мае такога вострага характару, як яшчэ тры гады таму. Гэтаму садзейнічалі кантрактныя ўмовы і павышаная ўвага з боку мясцовых выканаўчых органаў улады.

У частцы інжынернага забеспячэння ёсць праблема, якая, напэўна, уласцівая і нам, і нашым суседзям. У нас амаль 220 буйных населеных пунктаў, якія былі пабудаваны за ўсе гады пасля катастрофы. Там створаны камунальныя сеткі. Улічваючы, што гэта аб'екты даволі хутказношваемыя, ды і не знаходзілі яны належнага кантролю з боку мясцовых структур улады, патрабуецца вельмі актыўная адпрацоўка пытанняў перадачы іх у камунальную ўласнасць. Для гэтага патрэбны грошы. І я прашу падтрымкі з боку ўрада, каб як мага хутчэй вырашыць гэту задачу. Ёсць кадравыя праблемы і ў сельскай гаспадарцы. Іх можна вырашаць па той жа схеме, як мы вырашалі праблему з настаўнікамі.

І тэма, ад вырашэння якой ухіліцца немагчыма, гэта будаўніцтва жылля. Так атрымалася, што палову тэрыторыі Гомельшчыны займае зона са шчыльнасцю забруджвання 5 кюры на квадратны кіламетр і вышэй. Жыхары такіх тэрыторый мелі права на свабоднае адсяленне. Таму ў гэтых населеных пунктах ніхто нават агародчыка не завёў за 12 гадоў. Будаўніцтва жылля асабістымі намаганнямі грамадзян спынілася. І не толькі ў раённых цэнтрах, а ва ўсіх вёсках. Але жыццё ўнесла свае карэктывы, людзі засталіся. І іх праблемы мы павінны вырашаць.

**БЕЛТА.**

# КІРМАШ

## ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 28 (146)







## ПРАДАЕЦЦА

- л/а «ІЖ-27156» («каблук») грузапасажырскі, 1991 г.в.
Тэл. у Клецкім раёне *3-32-89.*
- «Масквіч-2140 Д» 1979 г.в. у добрым стане, тэхагляд у 1999 г. — 500 у.а.
Тэл. у Мінску *278-87-25,* пасля 18.
- жылы дом у Вілейскім раёне, цэнтр саўгаса «Стайкі», г/пабудовы, тэлефон, участак 16 сотак, сад.
Тэл. *(8-271) 7-32-54*, у Мінску *— 256-69-63.*
- дом з г/пабудовамі ў Нясвіжскім раёне, маецца калодзеж, сад, участак 25 сотак і медагонка.
Тэл. *(8-293) 4-26-47.*
- дом у Нясвіжы — 3000 у.а.
Тэл. *(8-270) 5-38-39.*
- «Масквіч-2140» 1984 г.в. у добрым стане — 500 у.а.
Тэл. у Валожынскім раёне *5-83-48.*
- дом у в. Беразнякі Калінкавіцкага раёна, участак 20 сотак, сад — 2000 у.а.
Тэл. *4-13-86.*
- «ВАЗ-21063» 1986 г.в.
Тэл. у Вілейцы *(8-271) 5-69-98.*
- л/а «Фольксваген-Гольф» 1982 г.в. і з/ч.
Тэл. *(8-017) 264-65-67.*
- л/а «Гольф-1», дызель, 1982 г.в., 3-дзверны, у добрым стане — 1700 у.а., торг.
Тэл. у Іванаве *2-40-19.*
- «ВАЗ-2101» 1973 г.в. у добрым стане, капрамонт кузава ў 1996 г., танна.
Тэл. у Валожыне *(8-272) 5-59-21.*
- дом з прыбудовамі, калодзеж, склеп, сад у в. Княгінін Мядзельскага раёна.
Тэл. *5-17-22.*
- ніткі шарсцяныя ў бабінах, рогі лася.
Тэл. (*8-217) 4-84-85.*
- узмацняльнік TESLA «PIS-COMIX 8-480» з акустычнай сістэмай Tesla к 6608.
Смалявічы, тэл. *(8-276) 5-43-57.*
- «ВАЗ-21063» 1990 г.в. прабег 60 тыс. км. — 3500 у.а., торг.
Тэл. у Слоніме (8-262) *7-32-06.*
- камплект для пераабсталявання аўтамабіляў «ГАЗ», «ЗІЛ» на дызель Д-240, 243; механічныя навясныя граблі.
Тэл. *(8-251) 2-12-15.*
- «ВАЗ-2106» 1981 г.в., пасля капрамонту — 1600 у.а., торг.
Тэл. у Мінску *211-74-06.*
- аўтаматычная газавая апаратура для ацяплення дома.
Тэл. у Лепелі *2-41-67* з 9 да 16, *2-41-90* — з 20.00.
- газавая пліта 4-канфорачная, б/к, у добрым стане.
Тэл. (*8-017) 248-28-74.*
- добрая дойная карова, узрост 7 гадоў.
Звяртацца: 222731, в. Мігдалавічы, д. 14 Дзяржынскага раёна. Канавалаў.
- цагляны дом з усімі выгодамі, размешчаны па дарозе Мінск—Віцебск, танна.
Тэл.у Лепельскім раёне *2-41-90,* з 21 да 23.
- л/а «ІЖ-комбі» 1986 г.в., магнітола, фаркоп.
Тэл. (*8-215) 5-32-56.*
- кватэра 3-пакаёвая з дзвюма лоджыямі ў в. Заеліца Глускага раёна.
Тэл. *3-17-06.*
- кватэра 3-пакаёвая з усімі выгодамі ў г.п. Карэлічы.
Тэл. *2-14-18.*
- вясельны ўбор (атлас) 48 памеру, (50 у.а.), або пракат.
Тэл. у Астравецкім раёне *(8-291) 2-47-74.*
- тэрмінова і танна цагляны катэдж з усімі г/пабудовамі, гаражом, цэнтральнае ацяпленне, 80 км ад Віцебска.
Тэл. у Лепелі *2-41-67.*
- трактар «МТЗ-50» (рухавік Д-240), у 1994 г. капрамонт, прычэп 2ПТС-4.
Тэл. у Навагрудку *(8-297) 2-24-15.*
- шчаня паляўнічага ягдтэр'ера.
Тэл. у Мінску *239-62-50.*
- кватэра 4-пакаёвая, прыватызаваная, з усімі выгодамі ў г. Касцюковічы.
Тэл. у Добрушы *(8-02333) 3-25-78.*
- л/а «Опель-Аскона» 1985 г.в., бензін, люк, цэнтральны замок, растаможаны, вішнёвы, у выдатным стане.
Тэл. *(8-01592) 3-16-28.*
- Рама, кузаў, кабіна «ЗІЛ-130 г» (льнозаводскі варыянт).
Тэл. *(8-02158) 2-84-58.*
- «ВАЗ-2105» 1987 г.в., магчымы абмен, разгледзім розныя варыянты, пускавы рухавік «ПД-8Е» з рэдуктарам.
Тэл. у Валожыне *5-80-04.*
- «ВАЗ-2105» 1984 г.в. у добрым стане, два гады з Германіі, цана па дамоўленасці.
Тэл. *(8-01779) 7-32-25.*
- «Масквіч-2138» 1982 г.в., у добрым стане, у дадатак рухавік, з/ч.
Тэл. у Мінску *243-14-44.*
- Падмурак блокавы будаўнічы.
Тэл. у Мінску *241-19-42.*
- лес круглы і абпілены, вокны, шкло ўзорыстае, вуллі, медагонка.
Тэл. у Мінску *232-88-79.*
- камбайн «Дон-1500» б/к.
Тэл. *(8-017) 251-06-48.*

## РОЗНАЕ

- Куплю цыліндры з поршнямі і кольцамі — камплект да матацыкла МТ-11.
Тэл. у Шчучынскім раёне *3-87-12.*
- Зраблю зруб для дачы або лазні са свайго будматэрыялу.
Тэл. у Стоўбцах *3-91-97,* пасля 21.
- Куплю «МТЗ-82» ці «Т-25» б/к.
Тэл. *(8-017) 251-06-48.*
- Куплю старыя фотаапараты, аб'ектывы, значкі, вайсковую форму да 1958 г.
Тэл. *253-24-41.*
- Куплю жоўцевыя камяні кароў.
Тэл. *(8-01592) 3-26-78.*
- Мяняю кватэру ў 2-кватэрным доме на пакой у Маладзечне ці Смаргоні, або прадам.
Тэл. у Смаргоні *3-61-16,* пасля 18.00.
- Прадам або абмяняю дом у цэнтры Лепеля на кватэру ў г. Наваполацку.
Тэл.: *(8-02144) 2-95-36, 8(02132) 4-11-15.*
- Куплю трактар «МТЗ-80», 82, 52, 50 б/к.
Тэл. *(8-217) 4-85-23,* пасля 21.00.
- Маю патрэбу ў вырабе авечых шкур або прадам.
Тэл. *(8-217) 4-84-85.*
- Куплю аўтамабіль «Тарпан» (танна).
Тэл. *(8-0212) 33-85-48.*
- Куплю для будаўніцтва дома незавершаную будоўлю або «нулявы» цыкл.
Тэл. у Лагойску *(8-274) 5-86-47.*

**Сардэчна віншую**
**Ірыну Баляславаўну ХАМЕНКА з днем нараджэння.**

*Букетик роз и неба голубого,*
*Улыбок, солнца, радости, любви*
*И счастья в мире самого большого*
*Желаю я от всей тебе души.*

**Сяброўка Надзея.**

# МАЛЫ БІЗНЕС — ВЯЛІКІЯ ВЫНІКІ

**Недзяржаўны сектар эканомікі, якім з'яўляецца малое прадпрымальніцтва, у значнай ступені вырашае мноства праблем еўрапейскіх краін. Нават сацыялістычная Германія рабіла стаўку на дробны і сярэдні бізнес.**

У Беларусі, па меркаванню многіх спецыялістаў, пакуль не асэнсаванае месца малога прадпрымальніцтва ў эканоміцы краіны. Між тым, 9 працэнтаў унутранага валавога прадукту за мінулы год створана суб'ектамі дробнага і сярэдняга бізнесу.

Як лічыць начальнік упраўлення інвестыцый Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый РБ Аляксандр Швец, дзяржава зацікаўленая ў фінансаванні малога прадпрымальніцтва па дзвюх прычынах: выпуск экспартнай прадукцыі і забеспячэнне занятасці беларусаў. Малыя прадпрыемствы арыентаваныя на стварэнне высакаякасных тавараў і паслуг, якія здольны замяніць імпартную прадукцыю. Як вынік — паляпшэнне знешнегандлёвага балансу краіны і павелічэнне сумы падаткаў. У любым выпадку дзяржаве выгадна інвесціраваць дробны і сярэдні бізнес, бо прадпрымальніцтва — самарэгулюемая сістэма і поспех яе функцыянавання залежыць ад ініцыятывы прыватніка. Па меркаванню субясэдніка, патрэбны толькі дыферэнцыраваны падыход у выбары прэтэндэнтаў на фінансавую падтрымку.

У сёлетнім годзе ўпершыню прадпрымальніцтва можа разлічваць на сур'ёзную дапамогу з боку дзяржавы: запланавана выдаткаваць звыш 300 мільярдаў рублёў на патрэбы дробнага і сярэдняга бізнесу. Непасрэдна з дзяржбюджэту выдзяляецца 50 мільярдаў, з мясцовых «кішэняў» — 97. Фонды занятасці ўносяць свой пай у памеры 60 мільярдаў рублёў. Астатнія сродкі мяркуецца атрымаць, задзейнічаўшы шэраг механізмаў, якія не з'яўляюцца непасрэдна грашовымі. У прыватнасці, распрацоўваецца механізм ільгатавання працэнтных ставак па банкаўскіх крэдытах на фінансаванне інвестыцыйных праектаў. Па словах спецыяліста Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый, на дапамогу дзяржавы могуць разлічваць тыя, хто рыхтуецца перайсці на вышэйшы ўзровень. Уладальнікі толькі ідэі наўрад ці будуць у шэрагу крэдытаатрымальнікаў.

Частку сродкаў плануецца накіраваць на стварэнне інфраструктуры падтрымкі прадпрымальніцтва. Як лічыць Аляксандр Швец, гэта адна з першачарговых задач. Ад узроўню падрыхтоўкі кадраў у немалой ступені залежыць эфектыўнасць работы прадпрыемстваў. А поспех айчынных бізнесменаў з'яўляецца падставай для прыходу на беларускі рынак замежных прадпрымальнікаў. Пакуль жа патэнцыяльныя інвестары займаюць пазіцыю назіральнікаў.

Надзеі на змяненне сітуацыі ў галіне інвестыцыйнай дзейнасці прадстаўнік улады звязвае і з прыняццем прынцыпова новай праграмы развіцця прадпрымальніцтва ў 1999 годзе. «Я лічу, што ранейшыя праграмы і гэтага года — падрыхтоўчыя. Аднак заўтра неабходна ў корані мяняць падыходы да прадпрымальніцтва на самым высокім узроўні», — сказаў Аляксандр Швец.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## *Асабістае жыццё*

**Аб. 764**. Пазнаёмлюся з сур'ёзнай жанчынай, якой надакучыла адзіноцтва, для стварэння сям'і. Калі ёсць дзіця, буду бацькам.
Аб сабе: Аляксандр, 41 год, рост 168, адзінокі, для жыцця ўсё маецца (Слуцкі раён).

**Аб. 765**. Пазнаёмлюся з дзяўчынай, інвалідам другой ці трэцяй групы без дзяцей (Гродзенская вобл.).

**Аб. 766**. Мужчына 32/182/80, пазнаёміцца з добрай шчырай жанчынай 24—30 гадоў, якая зможа зразумець і паверыць, нягледзячы на тое, што знаходжуся ў няволі. Буду верным сябрам і апорай на ўсё астатняе жыццё. Адкажу ўсім.

**Аб. 767.** Віктар, 27/175/80, інвалід другой групы, пазнаёмлюся з жанчынай адпаведнага ўзросту, магчыма інвалідам, якая пражывае ў гарадской кватэры (Мінская вобл.).

**Аб. 768**. Дзве дзяўчыны Юля, 19/162/52, і Анжэла, 19/169/53, пазнаёмяцца з хлопцамі ва ўзросце 19—25 гадоў для перапіскі.

**Аб. 769.** Аляксандр, 21/176/75, пазнаёмлюся з дзяўчынай да 20 гадоў для сур'ёзных адносінаў. Пажадана фота, якое абяцаю вярнуць. Адкажу ўсім (Бешанковіцкі раён).

**P.S. Паважаныя чытачы, калі запаўняеце купон прыватнай аб'явы, асабліва ўважліва пішыце сваё прозвішча і адрас. Для атрымання адраса абанента высылайце канверт са сваім адрасам.**



## Накірунак «Форда» — Украіна

**Адміністрацыяй аўтамабільнага завода «Форд Юніян» распрацоўваецца праграма прасоўвання сваёй прадукцыі на рынак Украіны, паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў прэс-службе прадпрыемства.**

Рэалізацыя аўтамабіляў «Форд», выраблених у пасёлку Абчак, сёння ажыццяўляецца ў Беларусі і ў Расіі. Як адзначыў прадстаўнік прэс-службы завода, пашырэнне геаграфіі паставак прадпрыемства адбываецца ў межах мытнага саюза. Таму праз нейкі час набываць беларускі «Форд» змогуць і ўкраінскія пакупнікі. З мэтай пашырэння рынкаў збыту сваёй прадукцыі ў Расіі і ва Украіне «Форд Юніян» экспануе гэтымі днямі свае аўтамабілі на выстаўцы, што адбываецца ў падмаскоўным горадзе Мыцішчы. Выстаўка праходзіць у межах трохбаковага пагаднення аб эканамічным супрацоўніцтве паміж Кіеўскай, Маскоўскай і Мінскай абласцямі.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## *ВІНШАВАННІ*

***Ніне Мікалаеўне ЯРМОЛЕНКА*** са Стоўбцаў з нагоды дня нараджэння пажаданні добрага здароўя, поспехаў у яе высакароднай справе.

**Станкевіч.**

Віншуем з 50-годдзем ***Леаніда Уладзіміравіча КРУПІЧА*** з в. З.-Дзеляціцкае. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, усяго самага найлепшага ў жыцці.

**Сям'я Ляўковічаў.**

Віншуем ***Ігара Яўгенавіча і Дануту Аляксееўну СЦЯШКО і іх сына Фёдара*** з Даўгінава з днём нараджэння. Здароўя, шчасця, дабрабыту, поспехаў у працы вам.

**Бацькі, дзядуля, бабуля,** *г. Вілейка.*

Віншуем з 50-годдзем ***Генадзя Пятровіча ГІРО.*** Жадаем моцнага здароўя, шчасця і добрага настрою.

**Сям'я Гіро.**

Ад усёй душы віншуем любімых родных ***Аксану і Віцю ШЫМЯКОВЫХ*** з г. Сянно, ***Дзіму МУРЫНА і Віктара Мікалаевіча КАНДРАЦЮКА*** з г. Брэста з днём нараджэння. Жадаем доўгіх гадоў жыцця, здароўя, поспехаў.

**Ляшчынскія**, *в. Пяскі.*

Дарагога, роднага, любімага татачку ***Вікенція Іванавіча ТАРАТУТУ*** з в. Слаўкава Нясвіжскага раёна віншуем з 75-годдзем. Моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця ў добрых клопатах і душэўным спакоі жадаюць вам сем'і вашых дзяцей.

*Пад дахам бацькоўскае хаты,*
*як у чыстым бусліным гняздзе,*
*адчуваеш і клопат, і ласку,*
*і быццам не быў ты нідзе.*
*Ад жыццёвай дарогі стомішся,*
*а прыедзеш да таты дамоў*
*маладосцю, здароўем і радасцю,*
*падсілкуешся тут зноў і зноў...*

**Жалязнёва Н.В.**

## ЗВЯЗДА

### Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы

**Запоўніце разборліва, выражце і вышліце на адрас рэдакцыі 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**

**АБАВЯЗКОВЫЯ звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**

**Тэлефон для даведак 232-31-98.**

*Увага! Неразборліва запоўненыя купоны не разглядаюцца і не вяртаюцца.*
*Пры віншаванні ўказвайце прозвішча, імя, імя па бацьку таго, каго трэба павіншаваць.*

*СІТУАЦЫЯ*

## ДЗЕ — ГУСТА, А ДЗЕ І ПУСТА

Каля 40 медыцынскіх сясцёр на Слонімшчыне працуюць... санітаркамі. І не таму, што яны самі аддалі перавагу менш кваліфікаванай рабоце, а вымушана. У той жа час, па словах начальніка ўпраўлення аховы здароўя Гродзенскага аблвыканкама Роберта Часнойця, у некаторых раёнах медсясцёр не хапае.

Сітуацыя тлумачыцца тым, што ў Слоніме ёсць медвучылішча, куды паступае шмат мясцовых дзяўчат. Пасля заканчэння вучобы практычна ўсе яны па тых ці іншых прычынах становяцца «невыязнымі». У выніку — кадраў больш, чым трэба: вучышся на медсястру, а працуеш санітаркай.

Нешта падобнае атрымліваецца і з урачамі. Звыш 100 выпускнікоў медінстытута атрымліваюць свабоднае працаўладкаванне і практычна ўсе застаюцца ў Гродне з мінімальнымі шанцамі ўладкавацца па спецыяльнасці. Але ў раёны вобласці, дзе на сённяшні дзень маецца каля 50 вакансій, ніхто ехаць не жадае, у асноўным з-за жыллёвай праблемы.

Усё гэта звязана з адыходам ад прынцыпу размеркавання маладых спецыялістаў. Адсутнічае і юрыдычная база пад кантрактную форму іх падрыхтоўкі: каб перавагу пры паступленні ў інстытуты і вучылішчы мелі юнакі і дзяўчаты з раёнаў, дзе адчуваецца недахват медыцынскіх кадраў. Таму, на думку Роберта Часнойця, праблема, калі ў адных раёнах спецыялістаў — густа, а ў іншых — пуста, будзе ўзмацняцца і ў далейшым.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 367

## АБ УНЯСЕННІ ДАПАЎНЕННЯ ВА УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АД 2 ЧЭРВЕНЯ 1997 Г. № 311

У мэтах дадатковага прыцягнення замежнай валюты для аплаты пастаўленых у рэспубліку ў 1998 годзе паліўна-энергетычных рэсурсаў пастанаўляю:

1. Дапоўніць абзац першы пункта 1 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 2 чэрвеня 1997 г. № 311 «Аб удасканаленні парадку абавязковага продажу замежнай валюты» (Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1997 г., № 16, арт. 579) пасля слоў: «30 працэнтаў» словамі: «і на дадатковай гандлёвай сесіі гэтай біржы ў перыяд да 1 студзеня 1999 г. 10 працэнтаў».

2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнаму банку прывесці свае рашэнні ў адпаведнасць з гэтым Указам.

3. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

20 ліпеня 1998 г.? г. Мінск.

## ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## АБ УНЯСЕННІ ДАПАЎНЕННЯЎ І ЗМЯНЕННЯ Ў КОДЭКС РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АБ АДМІНІСТРАЦЫЙНЫХ ПРАВАПАРУШЭННЯХ

***Прыняты Палатай прадстаўнікоў 18 чэрвеня 1998 года***
***Адобраны Саветам Рэспублікі 29 чэрвеня 1998 года***

Артыкул 1. Унесці ў Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях, прыняты Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь 6 снежня 1984 года (ЗЗ БССР, 1984 г., № 35, арт. 505; 1985 г., № 21, арт. 302; 1986 г., № 28, арт. 362; Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1996 г., № 23, арт. 425), наступныя дапаўненні і змяненне:

1. Дапоўніць Кодэкс артыкуламі $183^2$ і $183^3$ наступнага зместу:

**«Артыкул $183^2$. Парушэнне парадку вырабу і рэалізацыі ўстаноўленай формы адзення воінскіх фарміраванняў і ваенізаваных арганізацый**

Выраб і рэалізацыя ўстаноўленай формы адзення, знакаў адрознення Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, органаў унутраных спраў, органаў дзяржаўнай бяспекі, унутраных, пагранічных, чыгуначных войск і іншых воінскіх фарміраванняў і ваенізаваных арганізацый, якія ствараюцца ў адпаведнасці с дзеючым заканадаўствам, у парушэнне ўстаноўленага парадку -

цягнуць накладанне штрафу на грамадзян у размеры да дваццаці мінімальных заработных плат, на службовых асоб - у размеры да пяцідзесяці мінімальных заработных плат з канфіскацыяй гатовай прадукцыі, матэрыялу, фурнітуры.

**Артыкул $183^3$. Незаконнае нашэнне ўстаноўленай формы адзення воінскіх фарміраванняў і ваенізаваных арганізацый**

Нашэнне ўстаноўленай формы адзення Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, органаў унутраных спраў, органаў дзяржаўнай бяспекі, унутраных, пагранічных, чыгуначных войск і іншых воінскіх фарміраванняў і ваенізаваных арганізацый, якія ствараюцца ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам, асобай, якая не мае на тое права, што не прычыніла істотнай шкоды грамадзянам ці дзяржаўным або грамадскім арганізацыям, -

цягне папярэджанне або накладанне штрафу ў размеры да дваццаці мінімальных заработных плат з канфіскацыяй формы адзення.

Тыя ж дзеянні, накіраваныя на прычыненне ўрону дзяржаўнаму і грамадскаму парадку, правам і законным інтарэсам грамадзян, -

цягнуць накладанне штрафу ў размеры да пяцідзесяці мінімальных заработных плат з канфіскацыяй формы адзення».

2. Артыкул 202 пасля лічбаў «$172^1$» дапоўніць лічбамі «$183^2$, $183^3$».

3. У абзацы другім пункта 1 часткі першай артыкула $234^1$ лічбы «173 — $183^1$» замяніць лічбамі «173 — $183^3$».

4. Частку першую артыкула 274 пасля лічбаў «168» дапоўніць лічбамі «$183^2$, $183^3$».

5. Абзац трэці артыкула 291 пасля лічбаў «174» дапоўніць словамі «артыкуламі $183^2$, $183^3$».

**Артыкул 2.** Гэты Закон уступае ў сілу з дня апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**

*9 ліпеня 1998 г., г. Мінск. № 182-3.*

**СЁННЯ**

**СОНЦА**

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск | 5.04 | 21.26 | 16.22 |
| Віцебск | 4.47 | 21.23 | 16.36 |
| Магілёў | 4.53 | 21.15 | 16.22 |
| Гомель | 4.59 | 21.04 | 16.05 |
| Гродна | 5.22 | 21.39 | 16.17 |
| Брэст | 5.26 | 21.33 | 16.04 |

**МЕСЯЦ**

***Маладзік 23 ліпеня.***
***З 2.18 — 27-я месяцавыя суткі.***
***З 10.44 Месяц — у сузор'і Рака.***

**ІМЯНІНЫ**

**Пр. Казанскай іконы Прасвятой Багародзіцы, Пракопія**
**К. Лаўрэна, Даніэля**

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захавацца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў. Вецер слабы. Тэмпература паветра ў Віцебску і Магілёве — 23—25, Мінску і Гомелі — 24—26, Гродне — 26—28, Брэсце — 28—30 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак пераменная воблачнасць, 22-га ўдзень — на паўночным захадзе, 23-га ўначы — на паўночным усходзе кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер паўднёва-заходні, 3—8 м/сек. Удзень 22-га пры навальніцы парывы да 15—18 м/сек. Тэмпература паветра ўначы — 16—21, удзень 25—30, на паўночным захадзе ўначы — 10—15, удзень — 20—25 градусаў вышэй нуля.

## ЛІДЭРСТВА Ў ПРЫЁМНАЙ КАМПАНІІ-98 — ЗА БЕЛАРУСКІМ УНІВЕРСІТЭТАМ КУЛЬТУРЫ

**Як паведамілі «Звяздзе» ў Галоўным упраўленні вышэйшай адукацыі Міністэрства адукацыі РБ, ужо падведзены першыя вынікі прыёмнай кампаніі гэтага года.**

Усяго жаданне стаць студэнтамі дзяржаўных вышэйшых навучальных устаноў краіны выказалі сёлета 59.500 абітурыентаў, што на 9 тысяч больш, чым у мінулым годзе. Агульны ж конкурс у ВНУ склаў па рэспубліцы 2,5 чалавека на месца (у 1997 годзе — 2,2 чалавека).

Трэба заўважыць, што павелічэнне колькасці моладзі, якая імкнецца да атрымання вышэйшай адукацыі, ў міністэрстве не схільныя тлумачыць выключна узросшай у сёлетнім годзе колькасцю выпускнікоў. Тут лічаць, што высокі конкурс у ВНУ перш за ўсё сведчыць аб росце прэстыжу вышэйшай адукацыі сярод моладзі, а таксама аб пэўных пазітыўных зрухах у народнай гаспадарцы краіны. Гэта, дарэчы, пацвярджае і сёлетні конкурс у тэхнічныя вышэйшыя навучальныя ўстановы. Так, калі ў 1997 годзе агульны конкурс у Беларускі дзяржаўны універсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі і Гомельскі дзяржаўны політэхнічны інстытут складаў 1,7 чалавека на адно месца, то ў сучасны момант на адно месца тут прэтэндуюць 2,3 чалавека. У Магілёўскім тэхналагічным інстытуце конкурс вырас з 1,7 (у мінулым годзе) да 2,4 чалавек на месца сёлета, у Віцебскім дзяржаўным тэхналагічным універсітэце — з 2,2 да 2,8 чалавек, а ў Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі — з 2,1 да 2,5 чалавек на месца.

Лідэрам жа прыёмнай кампаніі-98 стаў Беларускі універсітэт культуры, дзе на адно бюджэтнае месца прэтэндуюць адразу 4 абітурыенты. Між іншым, лідзіраваў ён і ў мінулым годзе, вось толькі конкурс у яго стаў яшчэ большым (быў 3,5 чалавек на месца). Беларускаму універсітэту культуры саступілі па агульнаму конкурсу нават такія аўтарытэты, як Беларускі дзяржаўны універсітэт і Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт, дзе зарэгістраваны конкурс 3,3 і 3,8 чалавек на месца адпаведна.

Вельмі высокі конкурс трымаецца і ў вышэйшых медыцынскіх установах рэспублікі: у Віцебскім медінстытуце — 3,5, у Мінскім медінстытуце — 3,4 і Гродзенскім медінстытуце — 3,3 чалавек на месца. Невераговна, але жадаючых стаць медыкамі сёлета больш, чым жадаючых вывучаць замежныя мовы. Напрыклад, у Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце прэтэндэнтаў на званне студэнта крыху менш — 3,1 чалавека на месца. Аналізуючы вынікі прыёмнай кампаніі, нельга не адзначыць таксама павагу і цікавасць сучаснай моладзі да пажарнай справы: у Вышэйшым пажарна-тэхнічным вучылішчы МУС РБ конкурс склаў 3,4 чалавека на месца (у мінулым годзе быў 3,3 чалавека).

Што датычыцца конкурсу на асобныя спецыяльнасці ў вышэйшых навучальных установах краіны (а ён, як сведчыць практыка, можа даходзіць да 10 чалавек на адно месца), то ён яшчэ не высветлены. Але чакаць засталося зусім нядоўга.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

*КРЫМІНАЛ*

## КУДЫ ДЗЕЎСЯ «ШАКАЛАДНЫ» ГРУЗАВІК?

Яшчэ 7 сакавіка гэтага года 35-гадовы шафёр адной з польскіх фірмаў звярнуўся ў Гродзенскі райаддзел унутраных спраў з заявай, у якой сцвярджаў, што вечарам, акурат напярэдадні жаночага дня, яго аўтамабіль «Вольва», гружаны 18 тонамі шакаладу, каля вёскі Зарачанка Гродзенскага раёна былі спыніены невядомымі, якія выцягнулі пана з кабіны і, звязаўшы яго, кінулі ў лесе.

Справа аб разбойным нападзе стала расследавацца. І вось, здаецца, яна блізкая да свайго завяршэння. «Разбойны напад з прымяненнем фізічнай сілы і пагрозы жыццю» прысніліся, відаць, госцю з-за Буга ў нейкім кашмарным сне. Не больш таго. На самай справе, як высветліла следства, гэты ваддзіцель, супрацоўнік варшаўскай фірмы, прадаў свой аўтамабіль разам з шакаладам на тэрыторыі Беларусі за 45 тысяч долараў. Асобы пакупнікоў пакуль высвятляюцца, а супраць паляка (ён, дарэчы, знаходзіцца ў сябе на радзіме) 17 ліпеня ўзбуджана крымінальная справа.

**Антон ЗАПОЛЬСКІ.**

## ВЫ СЛУЖЫЦЕ...



Кожны новы прызыў у армію — падзея неардынарная. І найбольш — для саміх будучых воінаў, іх сем'яў, родных і блізкіх. А ўжо калі ў адзін дзень з сям'і адпраўляюцца ў войска адразу двое... Тут жа з вядомай на ўсю рэспубліку калектыўнай гаспадаркі «Астрамечава», што ў Брэсцкім раёне, служыць ідуць адразу некалькі чалавек, і сярод іх — двое братоў Пашкевічаў.

Расціў, гадаваў сыноў калгасны механізатар Іван Пашкевіч, вучыў няпростай хлебаробскай справе. І сыны пайшлі ў бацьку: абодва сталі механізатарамі. А падышоў час — бацька з лёгкім сэрцам адправіў іх выконваць галоўны абавязак мужчыны — быць абаронцам Айчыны.

Кіраўніцтва гаспадаркі ў сваю чаргу паклапацілася аб тым, каб усё было як у людзей: і провады шыкоўныя ім наладзілі, і падарункі ўручылі. Міне пэўны час, і хлопцы вернуцца ў родную сям'ю, каб разам з бацькам зноў араць неабсяжныя астрамечаўскія гоні.

**Уладзімір ГОЙТАН.**

**На здымку:** галоўны інжынер гаспадаркі Леанід Марыніч віншуе будучых воінаў Міхаіла і Аляксандра Пашкевічаў.

**Фота Аляксея СКАКУНА.**

## «ГРАН-ПРЫ» ФЕСТЫВАЛЮ «МАГУТНЫ БОЖА» АТРЫМАЎ ХОР З БРАНСКА

**У Магілёве завяршыўся VI Міжнародны фестываль духоўнай музыкі «Магутны Божа».**

Па рашэнню журы на чале з народным артыстам СССР і БССР Віктарам Роўдам «гран-пры» фестывалю атрымаў гарадскі акадэмічны хор з горада Бранска. На ўрачыстым закрыцці шостага свята духоўнай музыкі гасцям з памежнай расійскай вобласці была перададзена копія іконы Маці Божай XVII стагоддзя, арыгінал якой і з'яўляецца галоўным прызам, што пераходзіць штогод да новага пераможцы.

Першае месца ў конкурсе сярод вакалістаў заваявала мінчанка Тамара Пятрова, сярод харавых калектываў самымі лепшымі прызнаны тры: з Украіны — народны самадзейны камерны хор народный хор «Уваскрэсенне» і хор хлопчыкаў кафедральнага храма святой Сафіі ў Жытоміры, а таксама дзіцячы хор «Чароўнасць» з горада Барысава.

Па традыцыі на фестывалі «Магутны Божа» быў уручаны прыз «Надзея». Сёлета яго атрымала Алена Каначук з дзіцячага хору «Спакой і дабро» горада Слоніма: дзяўчына спявае, піша музыку і вершы. Віншуем!

**Ілона ІВАНОВА.**

*КРЫМІНАЛ*

## НЯЎЖО ЗАБОЙЦА — СЫН?

**Крыху больш года таму ў сваёй мінскай кватэры па праспекце Пушкіна былі знойдзены два трупы гаспадароў: мужа і жонкі. Тады следчыя пошукі ні да чога не прывялі.**

А сёлета, 19 лютага, народным судом Фрунзенскага раёна быў асуджаны іхні 28-гадовы сын за арганізацыю і ўтрыманне прытонаў, дзе ўжывалі наркотыкі.

І вось нечаканы паварот справы. У ходзе следства выплылі нечаканыя дэталі леташняй трагедыі, паводле якіх ёсць грунтоўныя падставы меркаваць, што забойцам быў... іхні сын.

**Міх[illegible] [illegible]СТ.**

## ПРЫ ПРАВЯДЗЕННІ ЧАРГОВАГА ВОБЫСКУ Ў ДОМЕ ВАСІЛЯ ЛЯВОНАВА ЗАБРАЛІ ПАЛЯЎНІЧУЮ СТРЭЛЬБУ

**На мінулым тыдні ў доме былога міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі Васіля Лявонава быў праведзены паўторны вобыск.**

Як паведаміла БелаПАН жонка эксміністра Антаніна Лявонава, калі яна прыйшла ў рэспубліканскую пракуратуру, каб атрымаць дазвол на спатканне з мужам, следчы Іван Бранчэль заявіў, што мае намер разам з ёй паехаць у размешчаны пад Мінскам дом Лявонавых для правядзення экспертызы. Антаніна Лявонава адмовілася ехаць са следчым, заявіўшы, што экспертыза праводзіцца пасля суда і адчужэння дома.

Пасля такой заявы яе пратрымалі ў кабінеце следчага больш за чатыры гадзіны, не дазволіўшы звязацца з адвакатам. Жанчыну не пусцілі ў паліклініку, куды яна павінна была ісці ў гэты дзень. Па словах А. Лявонавай, фактычна гэта было незаконнае затрыманне.

За час, пакуль яна знаходзілася ў пракуратуры, была вынесена пастанова аб правядзенні вобыску. У выніку А. Лявонава ў суправаджэнні следчых і экспертаў вымушана была паехаць у Прылукскую Слабаду (Мінскі раён). Супрацоўнікі пракуратуры правялі вобыск у доме, у двары і надворных пабудовах. Падчас вобыску была канфіскавана паляўнічая стрэльба — падарунак жонкі і дзяцей да 50-годдзя Васіля Севасцьянавіча, а таксама патроны.

Варта адзначыць, што на захоўванне стрэльбы меліся ўсе неабходныя дакументы, якія таксама былі канфіскаваны, хаця падчас першага вобыску іх не чапалі. Супрацоўнікі пракуратуры правялі замеры дома і ўсіх пабудоў.

У пратаколе аб правядзенні вобыску Антаніна Лявонава напісала, што лічыць гэтыя дзеянні пракуратуры незаконнымі.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

## У ЗЛУЧАНЫМ КАРАЛЕЎСТВЕ ГАНДЛЮЮЦЬ ТЭСТАМ ДЛЯ СЛІНЫ, ЯКІ ДАЗВАЛЯЕ УСТАНАЎЛІВАЦЬ БАЦЬКОЎСТВА

Грамадзяне Злучанага Каралеўства могуць вызначыць, ці з'яўляюцца яны сапраўднымі бацькамі сваіх законных дзяцей, без неабходнасці — у адрозненне ад таго, што адбываецца ў лабараторыях, — атрымліваць для гэтага згоду маці.

Адна фірма, якая знаходзіцца ў графстве Кент, пачала прадаваць просты метад, які крыху нагадвае індыкатар цяжарнасці. Прадукцыя «DNA Testing Agence» выклікала палеміку сваімі пабочнымі вынікамі, якія могуць адбіцца на сем'ях. І міністэрства аховы здароўя аб'явіла аб правядзенні расследавання ў гэтай кампаніі.

Эксперымент патрабуе ўзяць узор сліны дзіцяці з дапамогай спецыяльнай ваткі, якая знаходзіцца ў карабачку, і яшчэ адзін — у бацькі. Затым абедзве пробы неабходна накіраваць у лабараторыю ўпамянёнай фірмы, якая вяртае вынік па пошце (у Вялікабрытаніі купля розных тавараў па пошце вельмі распаўсюджаная). Усё гэта каштуе 298 фунтаў стэрлінгаў, а адказу прыходзіцца чакаць усяго пяць тыдняў.

Да паслуг фірмы звярнуліся ўжо дзесяткі чалавек — як бацькі, так і маці. Паводле паведамлення кампаніі, да гэтага часу яно не атрымала ніводнай скаргі.

**«Панс» *(Іспанія)*.**

